PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

№ 34 (2102) Год XLI Беласток 25 жніўня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Мікола Ваўранюк

## Забава ў стылі фольк

**Пустая мураваная школа-*tysiąclatka*, гэта тыповы элемент пейзажу ўсходняй Беласточчыны. Забітыя дошкамі вокны, аблушчаны тынк, дзіравы дах — як сімвалы цывілізацыйнай дэградацыі нашай зямлі. Так яшчэ зусім нядаўна было ў Моры Чыжоўскае гміны. Летась будынак узялі ў арэнду маладыя людзі з Гайнаўкі і Беластока ды перарабілі на клуб *disco-polo*.**

Здаровыя ахоўнікі ў цёмным праходзе ўважліва правяраюць білеты і ставяць на руцэ пячатку, якая фасфарасцыруе. Гэтая практыка не спадабаласяаднаму святару — назваў яе ў казанні чартоўшчынай. З тае пары некаторыя просяць, каб светлым надпісам *Relax* значылі іх толькі на левай руцэ.

— Гэта не праблема, — смяецца Андрэй (24 гады), саўладальнік клуба, — горш, што моладзь хутка вучыцца падрабляць такія пячаткі. Пачалося з таго, што проста прыкладалі пазначаную руку да другой і надпіс адбіваўся. Каб не было эфекту люстра, надпіс адбіваюць пачаткова на нешта, а толькі потым на руку. Атрымліваецца як арыгінальны.

Андрэй задумаў адкрыць свой клуб, калі ў цеснаце патапталі яго на забаве ў Бандарах. Паколькі не было ў яго дастатковых сродкаў, знайшоў супольнікаў — сужонства Весю і Ярка. Андрэй з Гайнаўкі, Вэся з падгайнаўскіх Ліпін, але жыве з мужам у Беластоку.

— Людзям здаецца, што мы тут какосы збіраем, — гаворыць Андрэй, — але каб так было, дык я не ездзіў бы на чатырнаццацігадовай „Ладзе". Шкада, што ты не бачыў гэтага будынка, як мы яго бралі. Руіна. Фактычна ўвесь час вядзем рамонт. А то тут штосьці падправім, а то там памалюем, а то нешта новае дакупім і неяк прыцягваем людзей. Але якім коштам, колькі трэба сюды капіталу ўкласці. Гэтага ніхто не лічыць.

Гутарым за шклянкай піва перад пачаткам танцаў на Ілью. Нервовая атмасфера — у час буры згасла святло. Некалькі разоў званілі ў *электроўню* ў Бельск. Сказалі там, што паслалі брыгаду шукаць аварыю, але ці знойдуць? Не прыехалі яшчэ музыканты. Спачатку Ярэк згадзіў быў гурт „Лідэр", у які, пасля далучэння Генуся Шэмета, трансфармаваўся вядомы беларускай грамадскасці „Рэаль" братоў Кавальскіх. Аднак „Лідэр", які перажывае час трыумфу на розных аглядах тэлеканала *Polsat*, выбраў нейкую іншую мясцовасць. На іх месца ў Мора на элегантным фургоне „Міцубісі" падкаціла „Даміна". Любіцелі *disco-polo* ведаюць, што гэта таксама неблагі калектыўчык, большменш той самы ўзровень. Больш амбітныя ўласнікі такіх клубаў не здавальняюцца адным гуртам — запрашаюць за немалыя грошы зорку, якая прэзентуецца з гадзіну і прыцягвае публіку, а затым усю ноч да танцаў іграюць менш вядомыя музыканты.

Дзесьці а палове дзевятай запальваецца святло. Воклічы радасці! Калектыў перакусвае нарыхтаваныя ў цемнаце



*Першыя ў танец ідуць дзяўчаты.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

бутэрброды і можа брацца за працу. Яго слава сёння неабыякавая, бо ў вёсцы ёсць канкурэнцыя — дармовыя танцы на пляцоўцы, якія на Ілью маранская моладзь ладзіць спрадвеку.

— Я дык нават цешуся, што ёсць тая другая забава, — кажа Андрэй, — бо людзі сёння выпіўшы, могуць быць не то што агрэсіўныя, але прыдзірлівыя. Асабліва старэйшыя, якія лічаць нас няпрошанымі гасцямі. Не вельмі вядома як з імі абыходзіцца, бо мы не хочам нажываць сабе ворагаў сярод мясцовых. А большасць моладзі, я ўпэўнены, паходзіць па вёсцы ды і так выбярэ нашу імпрэзу.

Сапраўды, найбольш маладых людзей — у дарозе між пляцоўкай і клубам *Disco-Relax*. На абодвух „паркетах" пуставата і танцуюць, галоўным чынам, дзяўчаты. Хлопцы або набіраюцца адвагі ў групах пад сценамі, або мацуюцца півам. Многа асоб не можа рашыцца, ці ўжо купіць білет, ці пайсці куды ў госці і дачакацца свабоднага ўваходу. А „Даміна" рэжа пра *majteczki w kropeczki* ды іншыя вакацыйныя прыгоды. Мігціць каляровае святло, спакуслівa задзіраюцца міні-спаднічкі, забава раскручваецца.

Нетанцораў вабіць буфет, а дакладней — два. Унізе піва „Дайліды" ў пластмасавых кубачках. У выпадку схваткі не можна іх выкарыстаць як белую зброю. Наверсе „Акоцім" у шклянках.

— Мы хочам, каб людзі ў будучыні звыкліся з такім падзелам, — здраджвае планы Андрэй. — На сподзе такая забягалаўка, каб перадыхнуць між танцамі, выпіць піва „на хаду". Зверху хочам зрабіць больш элегантны буфет, з лепшым, крыху даражэйшым півам, са столікамі, каб нават і трыццаці- і саракагодкі маглі прыемна правесці час.

З буфета часамі даводзіцца даплачваць да танцаў. Сам калектыў бярэ з 15 мільёнаў і не заўсёды назбіраецца толькі за білеты (па 50 тысяч адзін), а яшчэ ж ахова і такія аплаты як святло, выбітыя шыбы і іншае.

— Мы ўнізе перасталі ўстаўляць шкло, — кажа Андрэй, — гэта было бессэнсоўнае. І так хутка выб'юць, і так. Уставілі мы ў вокны фанеру, памалявалі ў розныя колеры і О.К.

Адна з важнейшых задач у пачатку

*(працяг на стар. 3)*

Яўген Мірановіч

## Спеўнае развітанне з беларушчынай

Некалькі асоб звярнула нам увагу, што пішучы пра фэсты, якія арганізуе БГКТ, мы ні разу не зганулі, што ў сапраўднасці з'яўляюцца яны элементам выбарчай кампаніі Сяргея Плевы і Станіслава Малішэўскага. На маю думку, гэта надта спрошчаная ацэнка сёлетняга культурнага сезона ў нашым запаведніку. Перш за ўсё, нягледзячы на тое, якія мэты паставілі сабе кіраўнікі Таварыства, арганізуючы гэтыя фэсты, у іх, апрача польскіх паслоў Плевы і Малішэўскага, прысутнічаюць тысячы людзей. Значыць, яны некаму патрэбныя. Спяваюцца там беларускія песні, а прамоўцы часта таксама гавораць і на беларускай мове. Варта таксама заўважыць, што ў шматлікіх мясцовасцях бэгэкатоўскі фэст з'яўляецца адзінай на некалькі гадоў „імпрэзай" культурнага характару. Таму варта пабачыць гэты факт з пазіцыі жыхара Ласінкі, Бандароў ці Кляшчэляў. А тое, што на кожным фэсце рэкламуецца пасол Плева, для будучыні беларускасці не мае вялікага значэння. Плева ці нехта да яго падобны заўсёды ў нас быў, ёсць і будзе. Гэта быт вечны, твор нашай псіхікі. Мы ўсе належым да тае нацыі, якая на найвышэйшыя пасты прывяла спадара Лукашэнку. І таму іранізаваць з паклоннікаў Плевы гэта так, як бы смяяцца з і так пакрыўджанага лёсам чалавека.

Фэсты, якія арганізуе БГКТ, нават калі камусьці там здаюцца прапагандаваннем культуры не надта высокай якасці, не наносяць нікому ніякай шкоды, а наадварот — спланізаваным беларусам даюць шанц прынамсі хвіліну быць сабою. Варта таксама заўважыць, што апошнім часам наступае амаль поўная бэгэкатызацыя характару дзейнасці (і не толькі) большасці беларускіх арганізацый. Чым так у сапраўднасці розніліся Купаллі, арганізаваныя зэбээмаўскай моладдзю ў Нарве і пажылымі дзеячамі ў Белавежы? Ці з'явіліся нейкія новыя формы, а можа прапагандаваліся новыя ідэі? Ці арганізаваная БАСам імпрэза, раней званая Басовішчам, а сёлета Dojlidami, захавала першапачатковы, народастваральны характар? Уся гэтая фестывальна-фэставая актыўнасць, нягледзячы на тое, хто з'яўляецца яе ініцыятарам, пры адсутнасці грамадскага зацікаўлення існаваннем салідным матэрыяльнай і інтэлектуальнай базы, мае характар гульняў нейкага калані-

*(працяг на стар. 5)*

# Мы прачыталі

*Сакрат Яновіч — чым глыбей яго ведаеш, тым больш ён здзіўляе маштабамі і незвычайнасцю сваёй індывідуальнасці: паэт, празаік, эсэіст, публіцыст, аналітык, гісторык, культуролаг, сацыёлаг, псіхолаг, філосаф, маралісттi яшчэ, яшчэ, яшчэ, яшчэ... Пры ўсім пры тым гэта чалавек з вельмі нізкім болевым парогам — мяккі і пяшчотны, тэмпераментны і ваяўнічы адначасова. Такім яго нарадзіла Беларусь,* — піша Уладзімір Гніламёдаў.

*Літаратура і мастацтва, н-р 29*

Спачуваем, Сакраце!

* * *

*Zostało napisane, że będę prezydentem Kałmucji. Wybrał mnie lud, a wola ludzi jest jak namaszczenie boskie. Dlatego sprawy kraju należy pozostawić jednej osobie. To znaczy prezydentowi. Czyli mnie. Pozostali mężczyźni powinni ciężko pracować, kobiety — rodzić dzieci, a dzieci — grać w szachy,* — сказаў прэзідэнт — гэтым разам Калмыкіі, Кірсан Ілюмжынаў.

*Gazeta-Magazyn, nr 30*

Якая гэтая ўсходняя дэмакратыя простая і зразумелая. Славуты прэзідэнт Манголіі Чынгісхан, які стварыў гэту сістэму яшчэ ў XIII стагоддзі, не спадзяваўся нават, што будзе мець такіх знакамітых прадаўжальнікаў ягонай традыцыі.

* * *

*Prezydent Białorusi Aleksander Łukaszenko oświadczył niedawno, że uczył się demokracji we Francji. Z francuskiego modelu chciałby przeszczepić 7-letnią kadencję. A nawet dłuższą: zapowiedział, że będzie rządził dwie, a nawet trzy kadencje. Cóż z tego, że konstytucja nie zezwala? Tym gorzej dla konstytucji. Prezydent łamie ją nagminnie i twierdzi, że może postępować wedle własnego uznania, gdyż wybrał go naród. (...) Na ulicach Mińska coraz więcej młodych ludzi w koszulkach z napisem „Łuka za kraty". Dziewczyny malują sobie szminką na skórze naszyjniki, bransolety, a nawet podkolanówki w zabronionych biało-czerwono-białych kolorach. Zamiast okrągłego stołu Łukaszenko zwołał w swojej rezydencji naradę na temat żniw. Dzięki łączom telefonicznym uczestniczył w niej cały kraj. Przewodniczący rejonów i obwodów sprawozdawali publicznie ile dają mleka od krowy, ile zasiali, ile zbiorą. Prezydent ich łajał za małą wydajność. Nakazał zebrać 10—15 proc. więcej niż w ubiegłym roku. I żeby nic się nie zmarnowało — pohukiwał.*

*Polityka, nr 32*

Грамадзяне прынамсі ведаюць, што ёсць гаспадар у дзяржаве, які „заботится" пра іх шчаслівую будучыню.

* * *

*Grupa parafian z Suchej koło Radomia została ekskomunikowana na mocy Kodeksu Kanonicznego, uznana za heretyków, schizmatyków, pozbawiona prawa do sakramentów świętych, rozgrzeszenia w innej parafii, katolickiego pogrzebu, wyłączona ze wspólnoty.*

*Polityka, nr 31*

Ксяндзы ўмеюць наводзіць парадак. За крытыку аднаго з іх закрылі вернікам уваход на неба.

* * *

*Grupa mieszkańców Białegostoku zrzeszona w komitetach parafialnych rozpoczęła akcję przeciwko sprzedaży pism pornograficznych. Wspomaga ich „Radio Maryja". W kościołach zostały wywieszone listy sklepów, gdzie nie sprzedaje się „świństw" i gdzie można kupować pobożnym katolikom.*

*Gazeta Wyborcza, nr 179*

Чэргі сталі аднак выстройвацца ў крамах, дзе прадаюцца „świństwa". Кожны хоча пабачыць забароненую інквізітарамі літаратуру.

* * *

*Oświadczenia, które od lat, zapewne w dobrej wierze, składa publicznie ksiądz prałat Jankowski, mają tę podstawową wadę, że — chociaż zawsze są głupie i to się prałatowi chwali — są śmiertelnie nudne. Można zrozumieć, iż ksiądz Jankowski ma do ludzi i świata pobożną nienawiść, ale żeby w tej nienawiści coś się zmieniło w formie jej przedstawienia. Niestety, nic z tych rzeczy, w kółko tak samo i tak samo. Prałat z ambony w czasie mszy świętej albo ogłasza, że wszyscy Żydzi to hitlerowcy i komuniści, albo bierze sobie na warsztat kogoś, kogo nienawidzi — tu wybór ma nieskończony — i nudzi tak, iż czasem wydaje się, że bredzi. Co widzimy na obrazie Leonardo da Vinci „Dama z łasiczką"? Żydówki, tak jest. Dwie. Dama i łasiczka. Ale księdza Jankowskiego znają prawie wszyscy, bo i bigoci, i dewotki, i praktykujący niewierzący.*

*Wprost, nr 30*

* * *

*Сёння мы будуем незалежную беларускую дзяржаву, зберагаем найкаштоўнейшую сувязь часоў, сэнса паважаючы нашу родную нацыянальную культуру,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, Прэзідэнт Беларусі.

*Голас Радзімы, н-р 32*

И как же не любить такого парня! Маладзец Аляксандр Рыгоравіч, маладзец, самую праўду рэжа.

# З мінулага тыдня

**У Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку** адбыліся ўрачыстасці з нагоды Дня Войска Польскага. Вячэрню і малебен узначаліў архіепіскап **Сава** — праваслаўны ардынарый Войска Польскага, генерал брыгады. У набажэнстве прымалі ўдзел салдаты з дыслацыраваных на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства часцей, прадстаўнікі Канцылярыі Прэзідэнта РП, Бюро нацыянальнай бяспекі, а таксама міністэрстваў унутраных спраў і нацыянальнай абароны.

**Праф. Адам Зялінскі** — заступнік грамадзянскіх правоў — заявіў, што спосабы прымянення падслухоўвання паліцыяй і УОПам (дзяржбяспекай) пагражаюць правам грамадзян. Заступнік лічыць, што дзяржава можа ў такі спосаб абараняцца ад тэрарызму, гандлю наркотыкамі ці адмывання грошай, але павінна таксама клапаціцца, каб грамадзян не падслухоўвалі іншыя асобы. Генеральнае выступленне заступніка да прэм'ер-міністра наконт падслухоўвання будзе зроблена пад канец жніўня г.г.

**У Дзяржаўным збожжавым прадпрыемстве** (PZZ) у Беластоку ўзрасла цана скупляемага на запасы збожжа. Тона пшаніцы каштуе цяпер 520 зл., а жыта — 340 зл. У адносінах да інтэрвенцыйных цэн, якія ўстанавіла Рэгіянальнае агенцтва сельскагаспадарчага рынку ў Ольштыне, цана пшаніцы павысілася на 40 зл. за тону, а жыта — на 4 зл. Дамоўленасць наконт скупкі пшаніцы і жыта з прызначэннем на запасы Агенцтва падпісала са збожжавымі прадпрыемствамі ў Беластоку, Бранску і Кляшчэлях.

**Змяншаецца беспрацоўе** ў Беластоцкім ваяводстве. На канец ліпеня г.г. зарэгістраваных было 41 507 беспрацоўных, у тым ліку 23 197 жанчын. У параўнанні з канцом мая г.г. лік незанятага насельніцтва зменшыўся на 1 428 чалавек, значыць на 3,4%.

**Прадавацы парнаграфічныя часопісы** адмовіліся амаль 1 300 прадуктовых крамаў і кіёскаў у Беластоцкім ваяводстве. Такое рашэнне — вынік акцыі байкоту продажу парнаграфічных выданняў, якая вядзецца ўжо некалькі тыдняў пасёлкава-парафіяльнымі групамі. Уласнік фірмы „Goniec Podlaski", якая займаецца распаўсюджваннем друку, заявіў: „Пад уплывам акцыі пункты продажу, для якіх пастаўляю часопісы, адмовіліся ад парнаграфічных выданняў. Спыніў я іх распаўсюджванне па эканамічных прычынах, а не па маральных. Гэта папросту мне ўжо не аплачваецца".

**Рэстаран Мак-Дональда ў Беластоку** — першы ў нашым горадзе і 54-ты ў краіне — пачаў сваю дзейнасць насупраць аўтобуснага вакзала. Падчас урачыстага адкрыцця кіраўніцтва Дзіцячага дома ў Красным атрымала ад фірмы чэк на 3 тыс. зл. і абяцанне пастаяннай падтрымкі.

**У Іньску** Шчэцінскага ваяводства на працягу дзесяці дзён праходзіў агляд кінафільмаў пад назвай „Іньскае фільмавае лета". Больш за дзвесце кінааматараў, крытыкаў, дыстрыбутараў і акцёраў з усёй Польшчы агледзела звыш трыццаці мастацкіх і дакументальных стужак замежных, у тым ліку і беларускіх, а таксама айчынных кінарэжысёраў.

**У Белавежы** адбываюцца курсы па падрыхтоўцы гмін да ажыццяўлення праграмы экалагічнага развіцця мікрарэгіёна Белавежскай пушчы. У занятках удзельнічаюць прадстаўнікі Белавежы, Чаромхі, Чыжоў, Дубіч-Царкоўных, Гайнаўкі, Кляшчэль, Нарвы і Нараўкі.

# Весткі з Беларусі

**Патрабаванні прафсаюзаў**

У Менску адбылося пашыранае пасяджэнне Каардынацыйнага савета Прафсаюзаў прамысловасці з удзелам старшыняў прафсаюзных камітэтаў буйных прадпрыемстваў сталіцы. На ім разглядаліся вынікі абмеркаванняў прафсаюзнымі ячэйкамі звароту да ўсіх работнікаў наёмнай працы, прынятага на пасяджэнні Каардынацыйнага савета 9 ліпеня г.г. У звароце змяшчаецца шэраг патрабаванняў да кіраўніцтва рэспублікі наконт паляпшэння сітуацыі ў прамысловасці. У выпадку невыканання гэтых патрабаванняў прафсаюзы маюць намер пачаць падрыхтоўку да правядзення агульнарэспубліканскай забастоўкі і мітынгу. Абмеркаванне звароту ў ячэйках мела завяршыцца да 12 жніўня, пасля чаго кіраўніцтву дзяржавы будуць выстаўлены канкрэтныя патрабаванні.

**Насцярожаны прэзідэнт**

„Камітэт дзяржаўнай бяспекі рэспублікі сур'ёзна аналізуе ўсе факты", — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, упершыню пракаменціраваўшы інфармацыю старшыні Камітэта па бяспецы Дзяржлумы Расеі Віктара Ільюхіна, які нядаўна паведаміў пра змову супраць беларускага лідэра, якую быццам рыхтуе ЦРУ. Выступаючы перад калектывам Мазырскага солевыварачнага камбіната, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што яго насцярожыў заклік лідэра ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага падняцца ў гарадах і вёсках Расеі на абарону прэзідэнта Беларусі, а таксама бурная рэакцыя беларускай апазіцыі на выступленне Ільюхіна.

**Заява Бэрнса**

„Рашэнне наконт прадастаўлення палітычнага прытулку лідэру БНФ Зянону Пазьняку і яго памочніку Сяргею Навумчыку будзе прынята ў бліжэйшы час", — заявіў афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Нікалас Бэрнс. Падчас сустрэчы з журналістамі ён пацвердзіў, што адпаведны запыт паступіў у службы іміграцыі і натуралізацыі ЗША. Бэрнс таксама сказаў, што прадстаўнікі амерыканскага знешнепалітычнага ведамства правялі гутарку з Пазьняком і Навумчыкам. „Мы выслухалі аргументы, якімі яны падмацоўваюць сваю просьбу, і вельмі сур'ёзна разглядаем гэтае пытанне", — заявіў Бэрнс.

**Чарговы рэферэндум**

З надыходам восені жыхары Беларусі будуць ведаць дакладную фармулёўку пытанняў рэферэндуму, які мае намер правесці прэзідэнт. Гэтае кіраўнік дзяржавы даў зразумець выступаючы перад калектывам Мазырскага солевыварачнага камбіната. Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў, што на ўсенароднае галасаванне будуць вынесены пытанні аб адносінах да прыватнай уласнасці на зямлю, аб унясенні істотных змяненняў у канстытуцыю. У прыватнасці ён мае намер прапанаваць, каб быў узмоцнены раздзел аб абароне правоў чалавека, каб былі дакладна размежаваны функцыі Вярхоўнага Савета і прэзідэнта, а таксама каб прэзідэнт адхіляўся ад пасады толькі ў выпадку яго здрады дзяржаве.

**Спозненыя пенсіі**

1 трыльён 400 мільярдаў рублёў неабходна Фонду сацыяльнай засцярогі, каб разлічыцца з пенсіянерамі за жнівень. У той жа час запазычанасць суб'ектамі гаспадарання перад Фондам на канец ліпеня склала 1 трыльён 800 мільярдаў рублёў. Несвоечасовыя выплаты ствараюць сітуацыю, калі пенсіі, памеры якіх як правіла ніжэйшыя за рысы малазабяспечанасці, выплачваюцца са спазненнем.

**Курапаты ў парламенце**

Дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Бухвостаў атрымаў афіцыйны адказ на дэпутацкі запыт, які тычыцца ўвекавечання памяці ахвяр масавых расстрэлаў у Курапатах. У адказе пастаяннай парламенцкай камісіі па правах чалавека паведамляецца, што неўзабаве члены камісіі разгледзяць гэтае пытанне і вынясуць яго на абмеркаванне ВС.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Паломніцтва на Святую Гару Грабарку** — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- **Спакойнае жыццё жыхароў мястэчка Пружаны** — рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- **„Ліцьвіны"** — зорка беларускай фальклорнай песні.

*З выпадку 70-годдзя пісьменніка Васіля ПЕТРУЧУКА сардэчна віншуем Юбіляра з выдатнай датай і зычым Яму моцнага здароўя і далейшых творчых поспехаў.*

*Сябры Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" і рэдакцыйны калектыў „Нівы"*

# Забава ў стылі фольк


„Даміна" — добра вядомы аматарам „disco-polo" гурт.

**(працяг са стар. 1)**

раскручвання бізнесу *disco-polo* — выпрацаваць марку бяспечнага месца. У Моры на ахову ніколі не шкадавалі. Найперш працавала тут вядомая беластоцкая ахоўная фірма К-2. Калі яны дастаткова ўбілі ў галовы навакольнай моладзі, што лепш у клубе „Relax" бойкі не ўсчынаць (а навам сям-там пераборшчылі), заступілі іх здаровыя мясцовыя хлопцы. Не заўсёды мусяць яны паказваць сваю мацату. Найчасцей хопіць псіхалагічны націск. Да таго захоўваецца раўнавага між наведвальнікамі з навакольных вёсак і тымі з бліжэйшых гарадоў: Гайнаўкі і Бельска.

Як толькі клуб пачынаў працу, у Мора ездзілі спецыяльныя аўтобусы з Бельска і Гайнаўкі. Спрабавалі давозіць аматараў танцаў таксама з Сямятыч, але нічога з гэтага не выйшла. Цяпер ужо і тыя два не ходзяць. Андрэй тлумачыць чаму:

— Зімою гэта нам аплачвалася, але цяпер амаль кожны мае сякога-такога „малюха", у які можа запакаваць яшчэ трое сяброў, ніхто не чакае павозкі.

* * *

„Даміна" вядзе дыялог з танцорамі, перадае прывітанні прыезджым то з тае, то з іншае мясцовасці, прысвячае песні прыгажэйшым дзяўчатам. Зала памалу запаўняецца, хаця відаць, што вялікага натоўпу не будзе.

Гэтак выглядае славутае *disco-polo*, новая з'ява ў масавай культуры, над якой дэбаты вядуць найбольшыя аўтарытэты грамадазнаўчых навук. Калі я быў крыху маладзейшы, бачыў дзесяткі такіх вясковых забаў. Новыя элементы цяпер, гэта куфлевае піва і абмундзіраваная ахова. І найважнейшае тое, што паказваюць гэта ў тэлебачанні.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*


*Хлопцаў вабяць буфет і прыгожыя дзяўчаты.*

# Зачараваная Беласточчына

На Беласточчыне, як нідзе, сустрэнецца шматлікіх паклоннікаў таемных практык. Чаруюць зайздросныя жанчыны, закаханыя дзеўкі, скупыя, прагныя мужыкі, такія ж мяшчане, хітрыя бізнесмены, бацькі слабаразвітых вучняў. Чары зраджаюцца ад зайздрасці, скупасці, нянавісці і помсты.

Памыляюцца тыя, якія спалучаюць чары з беларускай вёскай. У Гайнаўцы нямала паклоннікаў таемных сюрпрызаў.

— Нядаўна, — гаворыць аўтарытэтная знахарка з-пад Гайнаўкі, — прыехалі па мяне *скляпоўыя*. — Едзем у Гайнаўку, — начапіліся, — у *склепе* чары нехта павесіў. З-за іх прадаўшчыцы адно нястачы маюць, кліенты да канкурэнцыі ходзяць.

— Паехала я з імі ў іхнюю Гайнаўку, — успамінае мая субяседніца, — ужо вечарэла. У магазіне адны працаўнікі сядзелі. Гляджу-гляджу і бачу, што нейкі шнурок у кутку вісіць. На ім многа мазалёў навязаных. „Ого! — думаю. — Нехта свой цябе тут павесіў". Узяла я нажніцы, адрэзала тыя чары, завярнула іх у паперу і панесла на ростань дарог. Пазней прыязджалі зноў тыя прадаўшчыцы. Падзякаваць прыехалі. У іхнім магазіне зноў парадак завёўся.

— Чары былі, ёсць і будуць, — сцвярджае аўтарытэтная знахарка. Амаль усю ноч гаворым пра сучасных ведзьмароў, чары, забабоны. Для маёй субяседніцы няма ў гэтым нічога надзвычайнага.

— Калісь, — кажа яна, — яшчэ больш чаравалі. Забаліць у цябе рука, зуб ці галава, то пра хваробу не падумаеш, толькі пра злога суседа, які зноў нешта падкінуў і зачараваў цябе.

— У М., прыпушчанскай вёсцы, месяцаў тры таму маладога хлопца зачаравала суседка. Быў у бабы гэтае сын п'яніца, а ў суседзяў — хлопец працавіты, ажэнены. Найшоў той хлопец у агародзе курыныя яйкі, узяў іх у рукі

**(працяг на стар. 8)**

# Спасаўскія запусты'96

Бельскія дзеячы задумалі даць народу загуляць перад „спасаўкай" і адначасова даць прыклад еднасці беларускага руху. Аргкамітэт спасаўскіх запустаў, які ўзначаліў Васіль Ляшчынскі, аб'яднаў дзеячаў бельскага аддзела БГКТ, Беларускага саюза, ЗБМ і Літаб'яднання „Белавежа". Дзякуючы таму бурмістр Бельска Андрэй Сцепанюк мог вітаць залпам Янку Сычэўскага, Яўгена Вапу, Багдана Сіманенку і Яна Чыквіна. Паколькі з'явіліся таксама паслы СЛД Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі, еднасць атрымалася поўная.

На канцэрце выступілі: „Чарамшына" з Чаромхі, бельскія калектывы „Вядро", „Журавінкі", „Васілёчкі", „Дзявочыя ноткі" і „Маланка", беластоцкі „Рэаль" і „Лявоны" з Воранава. Усе паказаліся на сваім звычайным, г.зн. высокім, узроўні. У параўнанні з іншымі канцэртамі незвычайнымі былі толькі асобы канферансье. Гэты канцэрт упэўнена павялі бяльшчанка Альжбета Тамчук і журналістка Беластоцкага радыё Аліцыя Петручук.

Надвор'е было добрае, амфітэатр поўны, так што свята ўдалося. Арганізатары абяцаюць рабіць яго штогод і пераўтварыць у сапраўдны народны фэст са шматлікімі гульнямі.

**Алег Латышонак**

# Фэст у Чаромсе

Аб тым, што Беларускае таварыства арганізуе фэст у Чаромсе, я даведаўся ад Тамары Кердалевіч — кіраўніка мясцовага Дома культуры. Яна са сваімі сяброўкамі па рабоце — Марысяй Заборскай і Басяй Кузуб, проста вылазілі са скуры, каб фэст атрымаўся „на пяцёрку". Яны і рэкламай занялся, і падрыхтоўкай пачастункаў гасцям і артыстам. Праўда, працаўнікі Гміннай управы ім памаглі ў гэтым апошнім.

Ліпеньская нядзеля абдарыла чарамшукоў і прыезджых гасцей цудоўным надвор'ем. Ужо каля адзінаццатай гадзіны пачалі збірацца навокал „пляцоўкі" побач колішняга „Калеяжа" першыя ўдзельнікі фэсту — дзеці і школьная моладзь. Апоўдні перад клуб заехаў аўтамабіль старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Янкі Сычэўскага. З ім завіталі беларускія пісьменнікі — Міхась Хмялеўскі, Васіль Петручук і Янка Целушэцкі. Калі я захапляўся размовай з сябрукамі па пяру, да мяне падышоў мой добры знаёмы Лёнік Шымасюк.

— Ведаеш, Валодзька, — кажа мне. — Угадай, што ў мяне за пазухай, — і паказаў на кашулю. — Голуб, — кажа мне, не дачакаўшыся адказу. — Як пачнецца фэст, выпушчу яго на волю ў знак міру і дружбы!

Фэст планіраваўся на першую пасля абеду. Пачаўся аднак з паўгадзінным спазненнем. Прычына ў тым, што музычны калектыў меў нейкія складанасці з апаратурай.

З уступным словам выступіў войт Чаромхаўскай гміны Міхась Врублеўскі, які прывітаў усіх прысутных, а асабліва паслоў Беластоцкай зямлі Сяргея Плеву і Станіслава Малішэўскага. Затым выступіў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, які, вяртаючыся да нядаўняга юбілею 40-годдзя, расказаў прысутным аб дзейнасці і працы таварыства на Беласточчыне. Пасля Валянціна Ласкевіч сардэчна прывітала ўдзельнікаў фэсту і пазнаёміла з праграмай мастацкай часткі. Дзве з паловай гадзіны плылі народныя песні ў выкананні „Маланкі", „Васілёчкаў", самадзейнікаў з Гарадка, „Вульчанак" з Волькі-Тэрахоўскай, жаночага калектыву з вёскі Чаромхі. На канцэрце выступіў таксама фальклорны маладзёжны калектыў „Стаклосы" з Варшавы. Усяму гэтаму важаком была эстрадная група „Ада" з Беластока. На пачастунак артыстам і запрошаным гасцям часу засталося нямнога. Іх чакала чарговае выступленне ў Кляшчэлях, якое мела пачацца а семнаццатай гадзіне. Таму пасілкаваліся яны на хаду і без пятнаццаці семнаццаць пакінулі Чаромху. З імі таксама выехала эстрадная група „Ада", каб пасля канцэрта ў Кляшчэлях вярнуцца на вечар у чаромхаўскі ГОК і да ранку іграць на танцах. У фэстыне прысутнічала каля тысячы жыхароў пасёлка і навакольных вёсак.

Мастацкай часткай захапляліся старэйшыя людзі і кожнае выступленне ўзнагароджвалася імі бурнымі апладысментамі. Асаблівую ўвагу гледачоў прыцягнуў саліст з Гарадка Юры Налівайка. Маладым дзяўчатам і хлопцам найлепш гулялася на танцах пад музыку эстраднай групы „Ада", якая да другой гадзіны раніцы весяліла моладзь. Трэба адзначыць, што гэтым разам чаромхаўская моладзь сапраўды культурна правяла час на вечарыне.

**Уладзімір Сідарук**

*Фота: Тамары Кердалевіч*


*На фэст завіталі беларускія пісьменнікі.*

# Свабода прафсаюзаў у Беларусі

**Для вызначэння палітычнай і грамадзянскай свабоды ў краіне можна прыдумаць усякія крытэрыі. Пакуль, аднак, сродкі для жыцця чалавек будзе здабываць наёмнай працай, адзін з іх не страціць свайго значэння — магчымасць гуртавацца ў прафесійныя аб'яднанні, задачай якіх адстойванне інтарэсаў дадзенай працоўнай групы ці асяроддзя.**

**У перыяд ад 29 ліпеня да 19 жніўня г.г. прабываў у Беластоку з групай пацярпелых ад Чарнобыля дзяцей старшыня Свабоднага прафсаюза беларускага ў Магілёўскай вобласці Сяргей АБАДОЎСКІ.**

**Сяргей Абадоўскі — 1950 года нараджэння; закончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут, інжынер, у гэтым годзе пачаў завочна вывучаць права; прафесійны працаўнік Свабоднага прафсаюза беларускага; жанаты, 4 дзяцей, 2 унукаў.**

*Ніва: Якія прафсаюзы існуюць у Беларусі?*

**Сяргей Абадоўскі:** Як і ў Польшчы, іх некалькі. Склалася так, што надалей засталіся дзяржаўныя прафсаюзы (называюць іх таксама прафсаюзамі адміністрацыі) — іх прыгнятальная большасць. Яны карыстаюцца падтрымкай дзяржаўных функцыянераў, а, вось, любая незалежная структура — яўна тымі ж функцыянерамі дыскрымінуецца. Незалежныя прафсаюзныя арганізацыі гэта, між іншым, Свабодны прафсаюз беларускі, Свабодны прафсаюз педагогаў, Свабодны прафсаюз металістаў, Беларускі незалежны прафсаюз. Незалежныя прафсаюзныя арганізацыі аб'ядналіся ў Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў.

***— Як людзі трапляюць у прафсаюзныя арганізацыі?***

— У дзяржаўны прафсаюз трапляе кожны працаўнік, які прыходзіць на прадпрыемства. Яго там аўтаматычна запісваюць і такім жа чынам пачынаюць вылічваць з зарплаты складчыну ў касу дзяржаўнага прафсаюза. Большасць людзей не ведае, што дзеянне такое незаконнае — ім думаецца, што так і трэба, а гэтая складчына ўспрымаецца імі нібы яшчэ адзін абавязковы падатак. Чалавек, які запісваецца ў незалежны прафсаюз, мусіць быць гатовы на шмат непрыемнасцяў, якія спараджае гэты крок...

***— Перш за ўсё трэба перавесці складчыну ў іншую касу. Ці не так?***

— Дзеля гэтага неабходна завесці справу ў судзе, бо толькі такім чынам можна ў нас раскавітацца з дзяржаўным прафсаюзам. Праходзіць паўгода і мы дабіваемся пераводу грошай у нашу касу. Свабодны прафсаюз можа разлічваць усяго на складчыны сваіх членаў, а ў распараджэнні дзяржаўнага прафсаюза маюцца сродкі і маёмасць, якія выпрацоўваліся рабочымі на працягу пакаленняў.

***— Што вы мелі на ўвазе, кажучы пра яўную дыскрымінацыю незалежных прафсаюзных арганізацый?***

— Я тут прывяду прыклад. У красавіку гэтага года ў тралейбусным парку ў Магілёве ўзнік Свабодны прафсаюз. Зразу запісалася туды чалавек 120. На сённяшні ж дзень — засталося іх 40. Як усё гэта адбылося? Вельмі проста і непрыкрыта. Членаў Свабоднага прафсаюза — у гэтым выпадку шафёраў — пачалі выклікаць на нечарговую кваліфікацыйную камісію, дзе павынахадзілі ім шэраг заганаў у прафесійнай працы, а нарэшце заявілі: вы непрыдатныя для шафёрскай працы, хіба, што... напішаце заяву аб выхадзе са Свабоднага прафсаюза. Мы, гэта значыць Свабодны прафсаюз, кажам гэтым шафёрам, што абаронім кожнага, але людзі ёсць людзі. Што цікавае ў гэтай справе — заявы аб выхадзе пісаліся не на імя старшыні Свабоднага прафсаюза ў тралейбусным парку, а на імя дырэктара прадпрыемства. Падобныя прыклады можна тут прыводзіць і прыводзіць. Ну, вось, справа водпуску. У членаў дзяржаўнага прафсаюза — 24 дні, а ў нашых — 15. І зноў жа сваё права трэба адстойваць праз суд.

***— Як да Свабоднага прафсаюза ставіцца палітычнае кіраўніцтва краіны, прэзідэнт?***

— Страйк у менскім метрапалітэне, да якога далучыўся і дзяржаўны прафсаюз, быў здушаны сілавымі метадамі. Лукашэнка падмануў рабочых, бо перш папрасіў іх па тэлебачанні вярнуцца на працу, кажучы пры гэтым, што ніхто не будзе пакараны, а затым — 58 чалавек было звольненых. 1 верасня 1995 г. А. Лукашэнка выдаў указ (№ 336), які забараніў дзейнасць Свабоднага прафсаюза і... асноўнай прафсаюзнай арганізацыі чыгуначнікаў у менскім метрапалітэне. Болей — кіраўніцтва дзяржаўнага прафсаюза само адказалася ад сваёй арганізацыі ў метрапалітэне. Канстытуцыйны суд, які прайшоў 8 лістапада 1995 г., прызнаў прэзідэнцкі ўказ супярэчлівым Канстытуцыі РБ і міжнароднаму праву. Але, вось, 29 снежня 1995 г. выходзіць новае прэзідэнцкае распараджэнне, якое забавязвае выконваць яго ўказы — нават тыя, што страцілі юрыдычную сілу. У лютым г.г. суд адмяніў і гэта. Свабодны прафсаюз быў перарэгістраваны 6 лютага г.г., выйшаўшы такім чынам з падполля.

***— Як на практыцы выглядаюць прэзідэнцкія ўказы ды рашэнні Канстытуцыйнага суда аб іх неправамоцнасці?***

— Фактычны стан такі, што адміністрацыя надалей выконвае пажаданні прэзідэнта, каб выконваць ягоныя распараджэнні — нават тыя, якія страцілі юрыдычную сілу. Але мы, свабодныя прафсаюзныя дзеячы, як былі актыўнымі, так і надалей будзем.

***— Ці чакае Беларусь хваля грамадскага неспакою?***

— Гаспадарка настолькі ўпала, што хваляванні гэтыя вельмі рэальныя. Але ёсць і іншыя фактары — напрыклад, страх. Калі прадпрыемства стаіць — рабочыя ідуць у водпуск, шмат з іх едзе ў Польшчу і ў Расію на гандаль, яшчэ іншыя маюць дачы за горадам і свае агароды. Інакш кажучы, нават у гэтай сітуацыі людзі ўмеюць сабе даць рады.

***— А якая, прыблізна, частка грамадства акрамя сваёй працы не мае нічога?***

— Людзей такіх палова і Лукашэнка разумее, што сітуацыі гэтай нельга цягнуць доўга. Людзі ж па 2-3 месяцы не атрымліваюць зарплаты. Ён хоча правесці рэферэндум дзеля ўзмацнення сваёй улады. Не страціў ён надзеі і на тое, што ўдасца ўсё-такі экспартаваць Беларусь у Расею і адцягнуць ад сябе адказнасць. Ёсць у нас людзі, якія ведаюць, як трэба выходзіць з гаспадарчай катастрофы, але з Лукашэнкам яны працаваць не будуць, бо ён не дазволіў бы ім так працаваць, як ім гэтага хацелася б. Наша перспектыва такая: Лукашэнка і тэрор або адыход Лукашэнкі.

***— Дзякую за размову.***

*Гутарыў і запісаў*
**Аляксандр МАКСІМЮК**



*Міліцыя арыштавала Сяргея Абадоўскага на сёлетнім першамайскім мітынгу ў Магілёве.*

# Змагар за волю народа

Адным з найбольш выдатных беларускіх нацыянальных дзеячаў падчас II сусветнай вайны быў Юльян Саковіч. Арганізатар беларускіх вайсковых і паліцыйных падраздзяленняў, падпольных арганізацый, ён бясстрашна бараніў беларускі народ перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Ю. Саковіч імкнуўся аб'яднаць увесь беларускі нацыянальны актыў: і камуністаў, і нацыяналістаў, ды скіраваць іх агульныя высілкі на барацьбу за дзяржаўную незалежнасць Беларусі.

Сёння, у ягонымя 90-я ўгодкі з дня нараджэння, варта ўспомніць гэтага вялікага патрыёта, змагара за волю народа.

Юльян Саковіч нарадзіўся 24 жніўня 1906 г. у фальварку Баўдыры Крэўскае воласці Ашмянскага павета ў заможнай сялянскай сям'і. Бацька хацеў бачыць сына адукаваным і нацыянальна свядомым ды накіраваў яго вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. Тут Юльян знаёміцца з падпольнымі камуністычнымі выданнямі, уступае ў камсамол. На пачатку снежня 1926 года яго арыштоўвае польская паліцыя і трымае ў турме цэлы месяц. Справа Саковіча была ўзнята ў польскім Сейме паслом Ю. Сабалеўскім 24 сакавіка 1926 г. Сабалеўскі прыводзіў у сваім выступленні паказанні Саковіча пра здзекі над ім польскіх паліцыянтаў: „Пасля арыштавання (...) хочучы змусіць мяне да фальшывых паказанняў процi маіх зверхнікаў, агенты палітычнай паліцыі нялюдскім спосабам здзекаваліся нада мною. (...) Білі мяне па твары, потым знялі гамашы і гумовымі прутамі білі ў пяты".

Скончыўшы гімназію, Саковіч быў ужо свядомым камуністам. „Старэйшыя таварышы", насланыя ў Заходнюю Беларусь з БССР, вельмі актыўна працавалі сярод беларускай моладзі, стараючыся перацягнуць яе на свой бок. Асаблівa вялікую ўвагу яны надавалі беларускаму студэнцтву, як найбольш актыўнай і адукаванай часткі моладзі. У існуючы пры Віленскім універсітэце незалежніцкі Беларускі студэнцкі саюз засылаліся камсамольцы, якія павінны былі або захапіць БСС, або яго ліквідаваць. Уступіў у Саюз і Юльян Саковіч, які вучыўся ва універсітэце на агранома.

Спачатку камсамольцы вялі ў БСС прапагандысцкую дзейнасць, якая не дала жаданых вынікаў. Пасля яны распачалі „падрыўную" дзейнасць, спрабуючы раскалоць арганізацыю. Але і тут атрымалі паражэнне: некаторыя студэнты-камсамольцы, у тым ліку і Саковіч, былі выключаны з Саюза. У ліпені 1929 года Юльян Саковіч з сябрамі пачынае ў Вільні выдаваць часопіс „беларускага прагрэсіўнага студэнцтва" „Вольная Думка". Аднак яго выданне было спынена на другім нумары пасля арышту Саковіча польскай паліцыяй. Гэта быў ужо не першы яго арышт і не апошні. Акрамя ўспомненага раней, Саковіч праходзіў і па справе Грамады. Але невядома, ці быў ён тады засуджаны.

Па некаторых звестках, частыя арышты перашкодзілі Саковічу закончыць універсітэт. Але кар'ера яго не вельмі хвалявала. Беластоцкая газета „Новая Дарога" пісала ў 1943 годзе: „Сын багатых бацькоў, ён ніколі не думаў аб тым, каб пайсці на кампраміс з ненавіснай яму польскай уладай і забяспечыць сабе спакойнае, добрае жыццё. Не, яго лозунгам было дабро цэлага беларускага народа. Дзеля гэтага дабра ён працаваў, змагаўся. За гэта сядзеў не раз у польскіх турмах. Але гэта яго не зламала. Якія толькі беларускія арганізацыі ў Вільні існавалі, ён у кожнай быў дзейным сябрам, заўсёды радасны, заўсёды з усмешкай, поўны запалу. Усе беларусы, працуючыя разам з ім, шанавалі яго, любілі за самаахвярнасць, за шчырую працу".

У 1930-х гадах Ю. Саковіч быў сябрам падпольнае КПЗБ, Таварыства беларускае школы (ТБШ). На пачатку 1933 г. ён і яшчэ шэраг дзеячаў ТБШ былі арыштаваны „за камуністычную дзейнасць". Большасць арыштаваных былі апраўданы, а Саковіч атрымаў тры гады турмы. Адбыўшы тэрмін зняволення, у 1936 г. ён зноў арыштоўваўся польскай паліцыяй.

На пачатку 1939 года ў Баранавічах на нелегальную нараду сабраліся былыя актывісты Грамады. Яны прагназіравалі хуткі пачатак вайны Нямеччыны з Польшчай, і таму абмяркоўвалі сваю тактыку дзеянняў у гэтых умовах. Быў прыняты план антыпольскага паўстання на выпадак вайны, з мэтай абвяшчэння незалежнае Заходнебеларускае рэспублікі. Юльян Саковіч удзельнічаў у гэтай нарадзе, аднак прыняць удзел у паўстанні не змог, бо быў у чарговы раз арыштаваны польскай паліцыяй.

Пачатак нямецкай агрэсіі звольніў Саковіча з канцлагера ў Бярозе-Картузскай. Ён вяртаецца ў родныя мясціны, дзе ўжо усталёўвалася савецкая ўлада. Здавалася, што нарэшце настаў той час, калі спраўдзіцца ўсё, за што ён змагаўся ўсе гэтыя гады. Але настала вялікае расчараванне. Ю. Саковіч

**Максім Танк**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1978

**15.I.** Стараюся пісаць лаканічна. Часамі з даўжэйшага верша пакідаю толькі некалькі строф ці радкоў. Толькі мой друг Якаў Хелемскі, пры перакладзе, часта запаўняе мае прабелы, але ад гэтага свабодны верш толькі праігрывае.

Карэспандэнт „Звязды" прасіў падзяліцца творчымі планамі. Адмовіўся, бо ўсе мае планы, пакуль працую ў Саюзе пісьменнікаў — нерэальныя.

Атрымаў два пісьмы. У адным бэсціць мяне чытач за артыкул у „Литературной газете", у якім тройчы выкарыстаў цытаты з выступленняў іншых аўтараў. А ў другім — нейкі гамяльчанін, якому не хацелі даць мой адрас, патрабуе выслаць яму грошы, бо ён не мае за што купіць бензіну для сваёй машыны.

Вярнуўся з цяжкой паездкі ў Цюмень. Не ведаю, ці варта было нашым кіраўнікам пасылаць у Сібір такі шматлікі дэсант пісьменнікаў, каб яшчэ раз пачуць тое, аб чым столькі раз гаварылі мы на сваіх з'ездах, пленумах, нарадах.

Пасля палярных халадоў крыху адагрэюся ды зноў трэба збірацца ў дарогу — у Маскву.

**4.II.** Як гром з яснага неба аглушыла мяне звестка аб смерці Аркадзя Куляшова. Памёр ён у Нясвіжы. І дома — казаў Іван Шамякін — аб гэтым яшчэ не ведаюць. І так не стала аднаго з выдатнейшых нашых паэтаў, які ўскрыў такія глыбінныя пласты паэзіі, да якіх ніхто з сучаснікаў не даходзіў, валодаў такім майстэрствам слова, якім мала хто з сучасных савецкіх паэтаў мог пахваліцца.

**13.II.** Смерць Аркадзя Куляшова не выходзіць з галавы. Ніяк не магу пагадзіцца з тым, што яго не стала. А меліся мы разам з ім пабываць на яго радзіме і ў маёй Пількаўшчыне.

Віншавалі сёння Пятра Міронавіча Машэрава з прысваеннем яму звання Героя Сацыялістычнай Працы. Пятрусь прачытаў прысвечаны яму свой верш. Ад усіх творчых саюзаў віншаваў А. Савіцкі.

**15.II.** Сёлета пачалася класічная зіма: снежная, марозная. Званіў Болтуцям. Заўтра з польскімі калегамі збіраюцца ў адведзіны да нас. Збіраюся на рынак. Трэба нешта купіць да заўтрашняга прыёма. Бой піша пра цікавы выпадак: французская пошта атрымала пісьмо з адрасам „Найбольшаму паэту нашага краю". Пісьмо гэта пераслалі Ламарціну, у якога былі кантакты з урадам. Той — ліст пераадрасаваў Гюго, які шырокім жэстам ускрыў канверт і пісьмо выпала з яго рук. Яно было адрасавана Мюсэ.

**20.II.** Чуваць, цяжка хворы Рыгор Раманавіч Шырма. Званіў яму дамоў — ніхто не адказвае. Трэба будзе яго наведаць.

Пазнаёміўся з выдатнымі перакладамі з беларускай паэзіі, зробленымі Б. Спрынчанам. Ізноў узяўся за Насовіча, Федароўскага, каб прыгадаць смак сапраўднай паэзіі і непаўторнае гучанне нашай беларускай мовы.

За вокнамі шалее завея.

**4.III.** Закончыў казку пра касмічнае падарожжа Мураша-Бадзіні. Усё часцей трывожыць наша будучыня. „Ад XX вякоў — пісаў Камю — сума зла не паменшала". І сапраўды, яна ўсё нарастае і нарастае.

Неспадзявана ўсплыла тэма верша пра Ланцуцкі замак.

**15.III.** Адзначылі саракавы дзень смерці А. Куляшова. Былі Гілевіч, Бярозкін, Кіслік, Ткачоў. Чуюся нейкі разбіты. Трэба было б легчы на абследаванне, але няма калі, бо зноў выклікаюць у Маскву. Перапісваю я з блакнота назбіраныя ў сваіх вандроўках народныя пагаворкі.

**19.III.** Кажуць, што талент меріцца не толькі ўдачамі, але і паражэннямі. На вялікі жаль, апошніх — у нас больш. Трэба было б нам перакласці паэму І. Горака „Яма". Толькі хто ў нас ведае харвацкую мову. Мне здаецца, літаратуры вялікіх народаў часта бываюць абмежаваныя сваёй веліччу. Я гэта даўно заўважыў. І пісаў калісьці ў сваіх „Лістках календара".

Набыў некалькі рэпрадукцый Суціна, якога і сёння мала хто на яго радзіме ведае.

Зноў званіў Рыгору Раманавічу. Ніхто не адзываўся.

Ёсць горкая доля праўды ў словах М. Клобскай, што народ, які не можа смяяцца з вялікіх, з'ўляецца малым народам. Выклікалі ў Цэнтральны Камітэт. Янка Брыль у фрагментах сваёй „творчай біяграфіі" закрануў некаторых „класікаў" і ўзняўся ад Мінска да Масквы такі вэрхал, што не ведаюць, як яго пагасіць. А. Т. Кузьмін званіў у „Литературную газету", якая збіралася даць разносную рэцэнзію, і прасіў Чакоўскага, каб не друкавалі, бо мы самі абмяркуем гэта пытанне ў сябе. Трэба сказаць, што сапраўды ў Янкі ёсць некалькі прыкрых мясцін, такіх, як пра Абая, Упіта, якія, чамусьці, прапусціў рэдактар і перакладчык, не звярнуўшы на гэта ўвагі аўтара. Баюся, ці не было гэта зроблена з мэтай зняць з абмеркавання ў Камітэце па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях кнігу „Мы з вогненнай вёскі", таму што гэта быццам „не мастацкі, а публіцыстычны" твор. Але ж перад гэтым за падобныя творы („Проста фашызм" Рома) прэміі прысуджаліся.

***(працяг будзе)***

# Спеўнае развітанне з беларушчынай

***(працяг са стар. 1)***

яльнага люду. У рэчаіснасці гук танцаў і спеваў маскіруе знікане нацыі.

Усё тое, што вырашае пра лёс вялікіх грамадскіх груп — гаспадарка, навука, асветная сістэма — не існуе нават на ўзроўні патрабавання. Якое можа мець значэнне для будучыні беларускасці на Беласточчыне тое, што на спеўна-музычную сустрэчу прыйдзе нават пару тысяч польскамоўных „праваслаўных"? Ці пасля вяртання дахаты загавораць яны да сваіх дзяцей на беларускай мове? Ці возьмуць у рукі беларускую літаратуру? Ці беларускасць будзе мець для іх самабытную вартасць? Продаж ста кніжак на беларускай мове сярод быццам бы трохсоттысячнай беларускай меншасці на Беласточчыне мяжуе з цудам. Праз пару гадоў і гэтая колькасць стане недасягальнай. Фэсты, ды іншыя гульні — безумоўна патрэбныя, але не запоўняць яны таго месца, якое ў грамадскім жыцці займаюць школы, інстытуты, банкі, гандлёвыя фірмы... Найгоршае аднак ёсць тое, што так у сапраўднасці ніхто ўжо не зацікаўлены ніякімі зменамі. Наша знакамітая эліта, занятая сабою і маленькімі войнамі за маленькія справы, доўга яшчэ не зможа нават патварыць ва ўпарадкаванай форме тыя прапановы, якія ставіліся на пачатку гэтай дэкады. Пакуль усё, што выходзіць за межы апрацаванага фальклору, гіне ў моры ігнаранцтва і абыякавасці. Беларускі люд тым часам не чакае і не патрабуе беларускіх школ, інстытутаў, цэнтраў культуры, не хоча нават, каб нехта з вонкавага свету заўважаў яго беларускасць. Гэта намнога большыя праблемы, чым прысутнасць пасла Плевы на бэгэкатоўскіх фэстах.

**Яўген Мірановіч**

трапляе ў турму НКУС, дзе ў яго самымі жорсткімі метадамі выбіваліся патрэбныя чэкістам паказанні. Гэта быў крах рэшты ілюзій наконт „беларускага дома" ў БССР. Здзекі і катаванні доўжыліся месяцамі і скончыліся 22 чэрвеня 1941 года.

Саковіч уцякае з турмы і вяртаецца ў бацькаву хату. З прыходам немцаў на яго распачынае паляванне польская паліцыя, якая была на службе ў акупантаў. Летам 1941 г. палякамі было расстраляна або выдадзена немцам для ліквідацыі толькі ў Заходняй Беларусі да тысячы актывістаў КПЗБ, ТБШ, Грамады. Юльяну Саковічу нейкім цудам удалося вырвацца з рук польскай паліцыі і ўцячы ў Менск.

Ю. Саковіч, развітаўшыся са сваімі камуністычнымі ілюзіямі, уключаецца ў барацьбу за дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Ён і шмат іншых беларускіх патрыётаў, ацалеўшых у турмах НКУС або прыехаўшых з эміграцыі, распачынаюць актыўную дзейнасць па стварэнню беларускіх вайсковых і паліцыйных падраздзяленняў, грамадскіх арганізацый і школьніцтва. Саковіч быў камендантам паліцыі Менскае акругі, а пасля горада Менска. У кастрычніку 1941 года яго прызначаюць начальнікам адміністрацыйнага аддзела Беларускае народнае самапомачы (БНС).

Ужо ў жніўні 1941 года Ю. Саковіч, праз бурмістра Віцебска Усевалада Родзьку, уваходзіць у беларускую канспірацыю. У 1942 г. ён становіцца сябрам ЦК Беларускае незалежніцкае партыі (БНП), кіруе менскім акруговым партыйным камітэтам. На менскай кватэры Саковіча праходзілі канферэнцыі і з'езды БНП. Адначасова Ю. Саковіч з'яўляўся правадыром нелегальнай арганізацыі Беларуская народная грамада, у якую ўваходзілі былыя сябры БСРГ 1925-27 гг. Першая нарада адбылася ў Менску ўвосень 1941 года і на ёй прысутнічала 9 чалавек. У 1942 г. на Палессі, дзякуючы грамадоўцам, удалося аб'яднаць некалькі дзесяткаў патрыятычных партызанскіх атрадаў і груп у Беларускую народную партызанку, камандзірам якой стаў былы маёр савецкай арміі Іван Шанько.

Летам 1942 г. Юльян Саковіч уваходзіць у штаб па фарміраванні вайсковых часцей Беларускае самаахоўы (БСА), падпісвае адпаведны заклік да беларускага народа (акрамя яго там былі подпісы І. Ермачэнкі, кс. В. Гадлеўскага, арх. Філафея, В. Іваноўскага і Ул. Казлоўскага).

Нямецкія спецслужбы мелі інфармацыю пра беларускую канспірацыю. Іх агентура не сядзела без працы. Сыпаліся даносы і на Саковіча, пра камуністычнае мінулае якога ведалі многія. Бачачы ў ім аднаго з кіраўнікоў беларускага супраціўлення, немцы пачынаюць адсоўваць Юльяна Саковіча ад уплывовых пасад. Ад жніўня 1942 г. да траўня 1943 ён працаваў кіраўніком Самапомачы менскае акругі. Саковіч не баяўся нямецкіх рэпрэсій і пратэставаў супраць палення эсэсаўцамі беларускіх вёсак і масавых забойстваў мірнага жыхарства, чым моцна настроіў супраць сябе нямецкія эсэсаўскія чыны. У выніку, яго пазбаўляюць займаемых пасад і высылаюць у Ліду на пасаду акруговага старшыні БНС. Польскае падполле апэратыўна даведалася пра прыезд Саковіча і прысудзіла яго да смерці.

Лідчына была апанавана польскім падполлем і партызанкаю, якія вялі бязлітасную барацьбу з беларускім нацыянальным актывам. Польскія тэрарысты стралялі беларускіх вайскоўцаў, настаўнікаў і ўрадоўцаў упрост на вуліцах Ліды. Зброю і амуніцыю акаўцы атрымоўвалі ад нямецкіх уладаў, ды трымалі з апошнімі шчыльны кантакт. Немцы ведалі, што жывым Саковіч адтуль не вернецца і, такім чынам, чужымі рукамі знішчалі аднаго з правадыроў беларускай канспірацыі.

Ю. Саковіч і Леанід Маракоў, брат загінуўшага ў бальшавіцкіх лагерах пісьменніка, прыехалі ў Васілішкі, каб правесці беларусізацыю мясцовай адміністрацыі. 13 чэрвеня 1943 года яны наведвалі беларусаў у фальварку Гайкаўшчына і вярнуліся ў Васілішкі толькі ў абед. Тут іх ужо чакалі два тэрарысты...

Саковіч і Маракоў былі расстраляны ва ўпор недалёка ад касцёла. Забойцы паспяхова скрыліся, а мясцовая паліцыя, складзеная з палякаў, нават і не збіралася іх шукаць. Беларускія следчыя выйшлі на след тэрарыстаў, але немцы зрабілі ўсё магчымае, каб тыя пазбеглі кары і пайшлі ў лес. Ілля Кіслы, у якога былі ўсе дакументы па расследаванню забойства, быў застрэлены на лідскай вуліцы.

Юльян Саковіч быў пахаваны на праваслаўных могілках у Лідзе ў прысутнасці шматлікага беларускага грамадства. Усе беларускія газеты змясцілі некралогі, прысвечаныя яго светлай памяці.

„Новая Дарога" пісала: „Не стала яго. Ён адышоў ад нас. Памяць аб ім застанецца вечна жыць у нашых сэрцах, у сэрцах беларускага народа. А ворагі нашы, яго забойцы, няхай ведаюць — назаўсёды прайшоў ужо час, калі яны маглі бяскарна нішчыць лепшых яго сыноў. Цяпер караючы меч нашых узброеных аддзелаў цяжка ўпадзе на іх праступніцкія галовы.

Спі спакойна, дарагі сябра, дарагі Змагар! Мы споўнім твае запаветы! Вольная Беларусь ніколі не забудзе сваіх ахвяраў на шляху змагання!"

**Сяргей Ёрш**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Лета над морам

Здаецца, нічога не прываблівае так летам, як мора. Вада, шырокая, неабсяжная прастора — часта марацца нам у час навукі ў школе, падчас урокаў у чатырох сценах класа. А калі яшчэ жывем у дзяржаве, якая пазбаўлена доступу да мора... Застаецца мара аб тым, што стаім на беразе і дыхаем вольным паветрам.

Жаданне пабачыць мора збылося для групы ліцэістаў з Менска, якія завіталі ў Гданьск 15 ліпеня 1996 г. Прывітанне з морам адбылося таго ж самага дня вечарам, калі пасля рассялення ўсе кінуліся ў марскую ваду пакупацца ці хаця памачыць ногі.

Атракцыёнам была паездка на катамаране з Сопата ў Гданьск, дзе чакала нас экскурсія па Старым Горадзе. Вельмі цікавыя і таямнічыя гісторыі расказвала нам экскурсавод Ірэна Мельнікаў. Хаця б пра сонечны гадзіннік з Мар'яцкага касцёла.

Мы пабачылі таксама славутую карціну Мемлінга „Страшны суд”, якая захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Гданьску.

Другога дня мы выехалі на сапраўднае мора на Гэльскую касу. Затрымаліся ў тым месцы, дзе шырыня яе толькі 300 метраў і відаць мора з двух бакоў. Можна было дыхнуць сапраўдным марскім паветрам. Хаця вецер дзьмуў з магутнай сілай і марскія хвалі падмывалі бераг, знайшліся аматары плавання. Каб уражанні ад мора засталіся больш поўнымі, пасля абеду паехалі мы ў Разэве. Гэта найдалей на поўнач паложаная мясціна Польшчы. Далей ужо толькі мора і мора, якое мы пабачылі з маяка.

Падчас пабыўкі прыйшлося нам наведаць яшчэ і кашубскую зямлю. Якая ж розніца ў краявідзе ў параўнанні з аднастайнасцю марской тоні! Тут пагоркі быццам у горах і шмат прыгожых азёр. Самае цікавае, што жывуць там людзі, якія называюцца кашубамі — са сваёй адметнай культурай. Цікава было наведаць кашубскі скансэн. Хаткі і іх абсталяванне нагадвалі нам беларускую вёску. Можна было пакаштаваць нават кашубскія народныя стравы: хлеб са шмальцам і рухалкі.

Уражанне на ўсіх зрабіла экскурсія ў музей нацыянальнага гімна Польшчы, які знаходзіцца ў родавым уладанні Юзафа Выбіцкага ў Бэндоміне. Усё так дагледжана! Аж сумна было падумаць, што ў нас не толькі няма такога музея, але і няма нацыянальнага гімна. Па дарозе праязджаці мы праз кашубскія гарады Касцяжыну, Картузы і Жукова. У зваротнай дарозе мы наведалі замак у Мальбарку, даўняй сталіцы Крыжацкага ордэна. Уражвае ён сваёй магутнасцю і арыгінальнасцю. Нават захавалася, як экскурсійны атракцыён, асабліва для нас, турэмная келля, у якой крыжакі трымалі вялікага князя Літвы — Вітаўта. Як гаворыць легенда, сярод службы крыжакоў быў нейкі ліцьвін, які, пачуўшы родныя напевы з келлі, дапамог князю Вітаўту ўцячы на свабоду.

З роздумамі пра мора і пашану да сваёй спадчыны на Памор'і мы ехалі на Беласточчыну, дзе пачалося „Басовішча”.

**Удзельнік**

P.S. Паездку арганізавала Беларускае культурнае таварыства „Хатка” ў Гданьску. Жылі мы ў парафіяльным доме пры касцёле св. Антонія ў Гданьску-Бжэзьне (над самым морам), за што дзякуем кс. пробашчу Бэрнарду Зялінскаму. А нашым спонсарам былі між іншымі: NSZZ „Solidarność” і „Wspólnota Polska” (Гданьскі аддзел).



*У Гданьску пабывала моладзь з Менска.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Пра караля і старога дзеда

***(беларуская народная казка)***

У адным каралеўстве жыў мудры князь. Любіў ён свой народ і зямлю, якой валодаў. Часта са старымі людзьмі сустракаўся і доўгія з імі гутаркі заводзіў. У князя былі тры маладыя міністры. Усе яны — грамацеі, выпускнікі акадэміі.

— Мы ўсё ведаем, — гаварылі міністры каралю, — няма для нас ніякіх сакрэтаў, ніякіх незразумелых спраў.

Не любіў князь такіх задавакаў.

— Давайце ў народ паедзем, — сказаў ён сваім міністрам.

Едуць яны, едуць, бачаць: стары дзядок на гары арэ і сее.

— Што ж нам з ім гаварыць! — сказаў адзін з міністраў. — Гэта мужык — напэўна непісьменны будзе. Адно што ў зямлі калупацца ўмее.

— Што гэта — на гары снег? — пытаецца кароль у дзеда.

— Час прыйшоў, — адказвае араты.

— Колькі ты разоў гарэў? — пытае зноў кароль.

— Два, — гаворыць дзядок.

— А колькі будзеш гарэць?

— Яшчэ тры разы.

— Тады я прышлю табе трох гусакоў, — гаворыць кароль, — іх трэба чысценька аскубці.

— Добра, вяльможны пане.

Паехаў кароль са сваімі міністрамі ў замак. Пасля паклікаў сваіх разумнікаў і пытае іх.

— Пра што мы з дзядком гаварылі?

— А тыя маўчаць, нічога не зразумелі з пачутай гутаркі.

— Я вас пакараю, калі не адказаце на маё пытанне! — злаваўся кароль.

Узяліся міністры за свае кнігі. Усе перачыталі, але адказу не знайшлі. Пайшлі яны зноў да старога дзядулі. Адшукалі яго, ды і пытаюць, пра што ён з каралём гаварыў.

— На гары снег — гэта валасы на галаве белыя, — паясняе дзядуля — Два разы гарэў — дзве дачкі замуж аддаваў, тры разы буду гарэць — тры дачкі аддаваць яшчэ буду, а тры гусакі — гэта, вы вучоныя міністры. Вось я вас і аскуб!

**Зорка**

## Вершы Віктара Шведа

**Няхай Мішка паспіць крышку**

Выклікаў настаўнік  
Міхася да дошкі.  
Сталася забаўна —  
Выходзіць Сярожка.

Настаўнік спытаўся:  
— А чаму ж не Мішка?  
— Мішка разаспаўся,  
Хай паспіць ён крышку.

**„Матэматык”**

Настаўнік запытаў Лёню:  
— Колькі нулёў у мільёне?  
Падказкі пачуў Лёня весць:  
— Шэсць.

— Ну а ў паўмільёне  
Колькі нулёў будзе, Лёня?  
І тут падказалі сябры:  
— Тры.

**Пытанні ўнучкі**

Бабулю любіць унучка Аня,  
Штодзень з бабуляй сядзіць яна дома.  
Таму заўсёды задае пытанні  
Сваёй бабулі аж да стомы.

— Чаму ты памятая такая? —  
Пытае бабулю малалетка.—  
Ты яшчэ новая, ці ўжо старая  
Была, калі выйшла замуж за дзедку?

## Польска-беларуская крыжаванка № 34

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі.**

| spiekota | | Kanada<br>zając | <br>prawo | | jak | car |
|---|---|---|---|---|---|---|
| błyskawica | | łąka | | | | |
| | | | | | | |
| ręka | | | | | ar | |
| | | | | | | ☹ ☺ |
| okazja | | nora | | | | |

## З дзённіка вучня Алеся БУРАКА

Наш настаўнік матэматыкі, відаць, вельмі любіць насякомых. На кожным уроку ён просіць мяне, каб я не лавіў мух.

* * *

Калі б я быў дырэктарам школы, то хадзіў бы на заняткі толькі па вялікіх святах.

*„Вожык”*

# Сяброўкі з Руткі

Марыся і Еўка Багроўскія з Руткі — старыя „Зорчыны" сяброўкі. Дзяўчаты ўжо гасцілі на нашай старонцы. Яны вельмі цікавяцца беларускай дзіцячай газеткай. Еўка, хаця толькі збіраецца ў школу, ужо ведае беларускія літары і чытае „Буквар". Марыся, вучаніца Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных, таксама не можа дачакацца ўрокаў беларускай мовы. Гэтага прадмета навучае там спадарыня Галіна Трашчотка.

Чаму ж дзяўчаты любяць так родную мову? — падумаеце сябры.

Па простай прычыне. Бацькі Еўкі і Марысі прыдаюць вялікую ўвагу да роднага. Дзяўчаткі навучыліся чытаць па-беларуску не ў школе, толькі ў хаце. Дапамагаў ім іхні тата. Варта адзначыць, што дзяўчаты размаўляюць з бацькамі на родным дыялекце. Нямнога ўжо такіх у нас дзяцей.

Нашы сяброўкі любяць пабываць у царкве. Едуць туды амаль кожную нядзелю.



*Ева і Марыся Багроўскія са сваім татам.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Зараз, у час канікул, дзяўчаты не толькі адпачываюць і гуляюць. Яны ўмеюць дапамагаць бацькам. Еўка даглядае гусянят, а Марыся забаўляецца з малодшым брацікам Дарафеем.

Да наступнай сустрэчы, сяброўкі!

**Зорка**



*Малюнак Цалінкі Глагоўскай з Гданьска.*

# Сымон Будны

Рэфармацыя, якая пачалася на захадзе Еўропы пры канцы XV стагоддзя, была рэлігійным рухам, які развіваўся перш за ўсё сярод вернікаў каталіцкага веравызнання. У выніку падзелаў у гэтым рэлігійным асяроддзі ўзнікла новае — пратэстанцкае веравызнанне. Яно перамагло на тэрыторыі заходняй і паўночнай Еўропы. У Польшчы і Беларусі пратэстантызм меў шмат прыхільнікаў сярод шляхты і мяшчанства.

Адным з найбольш выдатных беларускіх рэфарматараў быў Сымон Будны, які жыў у 1530-1593 гадах. Быў ён чалавекам вельмі адукаваным. Апрача беларускай, валодаў грэчаскай, лацінскай, нямецкай, польскай і англійскай мовамі. З творамі тагачасных філосафаў, багасловаў, прапаведнікаў — Марціна Лютра, Эразма Ратэрдамскага, Жана Кальвіна знаёміўся на мовах арыгіналаў. Сам быў філосафам, пісьменнікам, педагогам, багасловам. У 1562 годзе ў Нясвіжы была надрукавана ягоная кніга „Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам", у якой аўтар прыблізіў беларусам ідэі еўрапейскага пратэстантызму. Укладам Буднага ў еўрапейскую тэалагічную дыскусію былі яго шырокавядомыя ў свеце працы „Катэхізіс" і „Аб галоўных артыкулах хрысціянскай веры". Дзякуючы такім людзям як Сымон Будны, Беларусь безупынна прысутнічала ў інтэлектуальным жыцці Еўропы.

Будны быў таксама выдатным прадстаўніком беларускага і еўрапейскага Рэнесансу. Яго палітычны трактат „Аб свецкай уладзе" выдатна паўплываў на фармуляванне беларускага канстытуцыйнага заканадаўства, у тым і на славуты Статут Вялікага княства Літоўскага ад 1588 г., які быў узорам канстытуцыйнага парадку для шматлікіх краін Еўропы.

Як чалавек Рэнесансу, быў ён прыхільнікам свабоды дыскусіі, выступаў супраць праследавання іншадумцаў, крытыкаваў тыранію манархаў, але адначасова заклікаў грамадзян паважаць дзяржаўныя законы і шанаваць хрысціянскія традыцыі.

Будны вёў вельмі актыўнае жыццё, пабываў у большасці гарадоў Беларусі, дзе прапаведаваў свае ідэі. Яго памяць ушаноўваюць усе календары міжнароднай арганізацыі па справах культуры ЮНЕСКА.

## Легенды Беластоцкай зямлі

# Грошы — гэта смерць

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Дагнаў ён свайго сябра, які, аддаўшы яму ўсе грошы — і са скарбу, і свае, што па грошыку ўзбіраў пры розных нагодах за доўгія гады службы, прасіўся ды маліўся пусціць яго жывым, мовячы: „У мяне ж старэнькая маці-ўдава ды калекая сястра-сірата. Злітуйся, не губі ты іх..." Але дужэйшы яму на тое: „Слабак ты: не стрываеш, нашу таямніцу здрадзіш, і мяне з табой пятля чакае. А я жыць хачу..."

І забіў чалавека. Схаваў яго цела ў нейкай лясной чашчобе і накіраваўся ў сваю мясціну.

Ішоў, а тыя грошы пяклі яму сумленне, бы той жар. Давалокся ўсё ж ён неяк да роднага сяла. Ды ўжо цалкам змерклася. Зайшоў да старасты, па тадышняму абавязку — прапісацца, ці інакш: замельдаваць пра сваё прыбыццё. Стараста прывітаў яго сардэчна, разгаварыліся яны, і салдат, адыходзячы дахаты, запрасіў: „Прыходзьце, дзядзьку, заўтра да мяне: пасядзім, пагамонім ды і вып'ем, бо маю за што".

Бацькі ў салдата ўжо не было, адно старэнькая маці ды дзве сястрыперастаркі*. Увайшоў ён у хату, а там цёмна — у пяколку* лучынка ледзь тліцца. Даў ён „Добры вечар" і, пераканаўшыся, што ні маці, а тым болей сёстры, яго не пазнаюць, рашыў прыкінуцца чужым і папрасіў: „З войска вяртаюся я, стаміўся, што насілу валакуся. Можа вы дазволілі б пераначаваць?" А маці на тое: „Мы б ахвотна, салдаціку, але ж у нас цесната якая: самі ледзь-ледзь месцімся. І павячэраць табе няма чаго даць..."

Тады салдат выняў з-пад шынелі торбу, засунуў у яе руку і поўную жменю чырвонцаў сыпнуў маці на прыпол. Затым падышоў да сясцёр, што сядзелі на лаве, і таксама па шчопаці чырвонцаў даў.

Як зірнулі маці з дочкамі на такую цьму грошай, якое яны ніколі не тое што не мелі, але і на вочы не бачылі, адразу ў каморы і пры печы замітусіліся і мігам усё найлепшае на стале перад салдатам смакавітай парай задымілася. Галодны, ён за ядой такіх хатніх ласункаў нават і слова вымавіць не здолеў. А калі дасыта наеўся, дык адразу і паваліўся на нарыхтаванае яму на памосце пасланне і, сам да сябе ўсміхаючыся са шчасця, заснуў каменным сном.

Маці з дочкамі, пачуўшы здаравенны ваярскі храп, згрудзіліся на кухні ды зашапталі, што, маўляў, у салдата грашыскаў тых, вунь, якая торба! Вось каб неяк прыдбаць яе, то і гаспадарачку сваю яны на ногі паставілі б, і хату, як звон, ды яшчэ і на пасагі — і то якія! — усім ім хапіла б. Маглі б тады ў сватаных кавалерах перабіраць, бы ў ляжалых грушах. І пачалі яны разважаць, якім чынам тое салдацкае багацце прысабечыць. Прыкідвалі і сяк, і так. Урэшце рашылі: прыйшоў салдат позняй ноччу, ніхто не бачыў і не ведае, што тут начуе, давайце заб'ем яго; труп схаваем і грошы будуць нашы.

Як намерыліся, гэтак і зрабілі. Маці прынесла з дрывотні сякеру і зарубала спячага ваяра. Грошы яны схавалі ў хаце, а цела вынеслі ўсе разам у хлеў і закапалі ў гнаі. У хаце пасцель прыбралі, кроў замылі, усялякія сляды па забітым пазаціралі ды леглі спаць. Усю ноч ніводная з іх і вока не заплюшчыла: то цешыліся здабытым багаццем і будучым шчаслівым жыццём, то плакалі на думку, калі забойства раскрыецца, а іх у кандалах пагоняць на катаргу.

Раніцаю, ледзьве толькі развіднелася, чуюць: нехта ў дзверы стукае!.. Яны ўсе так і абмярцвелі, ніводная з іх не хацела ісці адчыніць — забіты салдат, маўляў, ачуняў і хоча з імі расправіцца!.. Ляжаць яны на палацях* ціха, бы мышы пад венікам, а той усё грамчэй у дзверы грукаціць. Урэшце адважылася маці, адчыніла дзверы, а там — стараста. „Што вы гэтак моцна паснулі? Я мала рук не паабіваў, у дзверы калоцячы. Пэўна, учора з госцем доўга балявалі?.." — „Нікага госця ў нас не было..." — пачала таіцца маці. Але стараста ўвайшоў у хату, азірнуўся і, не ўбачыўшы салдата, здзіўлены запытаўся: „Ну што вы, жартуеце? А дзе ж ваш сын? Гэта ж ён учора вечарам да мяне заходзіў, замельдаваўся і запрасіў, каб я сёння прыйшоў да вас у гасціну: „Пагуляем, казаў, вып'ем добра за мой прыход з войска".

Пачуўшы такое, маці войкнула і мёртвая паваліласа ў ногі старасту: не стрывала яе сэрца, што сваімі рукамі забіла роднага сына і гаспадара. Заенчылі дочкі па нябожчыках і па сваім будучым катаржніцкім лёсе.

Гэтак яно і выйшла, як казаў той селянін: „Грошы — гэта смерць".

*Паводле запісу І. Навіцкага з 1959 г. ад І. Шыманюка, 74 г., в. Семяноўка, гм. Нараўка пераказаў*

**Мікола Гайдук**

**Перастарка** — дзяўчына, якая доўга не выходзіць замуж, старая панна.

**Пяколак** — утуліна ў колішняй печы, дзе гарэла лучына, якая асвятляла хату.

**Палаці** — шырокі насціл з дошак звычайна за печчу, на якім калісьці спала ўся сям'я.

**Катарга** — пакаранне выгнаннем на прымусовую работу ў чужыя краіны.

# Загадкі

Яны прыходзяць тройчы ў год
Да школьнага двара,
Каб адпачыла ад турбот
Вучэбных дзетвара.

* * *

У бары, у бары
Таўкуць мак званары.
Хто яны?
І што за мак?
Не стаўкуць яго ніяк.

* * *

Гляньце, гляньце: з кожнай кветкі
Вырас церам на дварэ.
Ён без вокнаў, без дзвярэй,
А ў ім чорненькія дзеткі.

# Маланка ў Бэскідах

## 27–30.07.1996 г.

**Сёлета ўпершыню на Тыдзень бэскідскай культуры ў Вісле былі запрошаны фальклорныя калектывы нацыянальных меншасцей. Гонар беларусаў бойка бараніла бельская „Маланка", вядомы калектыў беларускай народнай песні.**

Само мерапрыемства „Тыдзень бэскідскай культуры" цяжка параўнаць з падобным і ў нашым паўночна-ўсходнім рэгіёне. Яго маштаб такі буйны, што, скажам, Сувальскай ярмарка фальклору ў Вэнгажэве, або Ваяводскія прэзентацыі фальклору ў Нараўцы — гэта ўсяго толькі мініяцюра. Крыху статыстыкі: 90 калектываў з усяго свету, ад Аргенціны, цераз Бразілію, амаль усю Еўропу па Чукотку, канцэрты на чатырох эстрадах адначасова, ды яшчэ гасцінна па чэшскім баку мяжы, у Яблонкаве (Заользе). Адзін са спонсараў фестывалю — піўзавод „Żywiec" — прызначыў лёгкай рукой 1 мільярд старых злотаў — значыць, крыху меней, чым гадавы бюджэт Бельскага дома культуры. У нас, на жаль, няма такіх шчодрых спонсараў. Але для параўнання: піўзавод Browar Dojlidy на Басовішча прызначыў з цяжкім сэрцам 20 мільёнаў ст. злотаў. Гэта як бы паказчыкі магутнасці імпрэзы ў Вісле, таму ўдзел „Маланкі" мог быць звычайна незаўважаны. Але сталася інакш. „Маланку" не толькі заўважылі, мала таго, яшчэ і палюбілі. Чатыры канцэрты — два ў Вісле і па адным у Асвенціме і Шчырку — надта падабаліся гледачам — пераважна айчынным і замежным турыстам. Маланка, як не дзіўна, усюды спявала на **біс**, а трэба дадаць, што не ўсе калектывы так успрымаліся. Напрыклад, абрадавы калектыў з сяла Кладніца ў Балгарыі — вельмі дасканалы з мастацкага пункту гледжання — не спадабаўся. Проста закончылі яны канцэрт нуднавата. А „Маланка" — вясёла, з жэстамі, сцэнічнымі рухамі. Ну, і беларуская мова больш зразумелая за балгарскую. Людзі пляскалі ў далоні, крычалі: „Bis, Białoruś, Białoruś, яшчэ раз!" Так сама было і падчас карагоду па горадку. Каля дваццаці разнамоўных і рознакаляровых калектываў у сваіх народных вопратках ішло вуліцамі Віслы з танцамі і спевамі. „Маланку" натоўпы на тратуарах затрымлівалі, большчан прасілі праспяваць ім, патанцаваць. „Гэта быў удалы выезд", — гаварылі ўсе з гурту. Найбольш недаразуменняў, незласлівых, зразумела, было з лакалізацыяй „Маланкі". Калі беларускі калектыў дык ён, пэўна, з Беларусі, — думалі і гаварылі людзі. Была і такая гаворка, што „Маланку" складваюць грамадзяне Беларусі, якія жывуць у Польшчы, а Бельск-Падляшскі знаходзіцца ў... Беларускім ваяводстве. Або Бельск быў блытаны з **Бельска-Бялай** — сталіцай тамашняга ваяводства, дык адкуль там беларуская меншасць?.. Але гэта ўсяго толькі дробязь. „Маланку" запрасілі на наступны год. А вяртаючыся дадому — на хаду стварылі на мелодыю папулярнай гуральскай песні „Oj, szalała, szalała" — баладу пра сваю пабыўку на „Тыдні бэскідскай культуры": „Гэй, гуляла, гуляла „Маланка" ў Бэскідах!" Песню можаце часам пачуць у перадачах „Пад знакам Пагоні".

**Ю. Л.**



*„Маланка" ў Вісле.*

# Вялікае расчараванне...

...перажывалі ў нас фаны на ўсіх канцэртах рок-гурту „Уліс". Таго культавага, легендарнага ўжо, не толькі з гітарыстам Славам Коранем, але і тэкставікам Феліксам Аксёнцавым, Андрэем Патрэем (вакал), Сяржуком Краўчанкам (бас-гітара), Сяржуком Кнышам (бубны; спачатку граў на іх Кірыл Шэвандо) і Валерым Цяніцкім (перкусійныя інструменты). Дзесяткі маладых людзей, дзякуючы альбомам „Чужаніца" і „Краіна доўгай белай хмары" сталі беларусамі. Члены фан-клуба гурту абражаліся за самое параўнанне іхніх ідалаў з іншымі рокерамі і мужна пераносілі ўсе насмешкі пасля таго, як у чарговы раз „Улісу" перад публікай не „строілі інструменты".

Успамінаю гэта, чарговы раз слухаючы касету „Кардону" — „Радыяцыя". Успамінаю, таму што маю дачыненне якраз з адваротнасцю. Я слабога канцэрта „Кардону" не чуў, ці быў гэта моцны ўдар на Басовішчы, ці лірычна-сцішаны на Бардаўскай восені. Бачыў, як завязваецца лучнасць са слухачамі, як не пускаюць музыкаў са сцэны, як напяваюць пасля лепшыя фрагменты іх песень. Сам знаходжуся пад моцным уражаннем больш-чым-гіту „А мая Айчына-маці травой зарастае". (Прафесару Яну Чыквіну, які ў адной нядзельнай перадачы „Пад знакам Пагоні" назваў гэтыя словы прэтэнцыёзнымі і неапраўдана песімістычнымі, хачу прыпомніць яго ўласныя: „Меншыцца айчыны далягляд — /Ужо амаль толькі што з Дубіч да Орлі". Калі гэта не пра тое самае і калі б'е з іх аптымізм, дык я нічога не разбіраюся ў літаратуры.)

Зразумела, што калі толькі паявілася першая, запісаная ў студыі Беластоцкага радыё касета, не было ніякага вагання — набыць ці не. І тут, на жаль, расчараванне. Я не пазнаю майго „Кардону". Быццам тыя самыя песні, тая ж музыка, а эфект атрымліваецца зусім іншы. Няма ніякай асалоды, а прапанаваць паслухаць камусьці, хто раней „Кардону" не чуў — проста сорам. Інструменты згубілі дзесьці сваё чыстае, моцнае гучанне. Бзымчаць неяк ненатуральна ціха, суправаджаюцца падазронымі шумамі. Хрыстафор Сяськевіч спявае быццам на паўсілы, быццам адчыняючы рот толькі напалову. У чым справа?

Як тапелец за саломінку, так я хапаюся за надзею, што вінаватыя касеты і капіраванне. Што студыйны запіс добры, а толькі з прычын нястачы сродкаў гурт перапісваў касету-матку ў хатніх умовах (на абы-якой апаратуры) на ненадзейныя стужкі. І што калі міне час захаплення сваёй першай касетай і зробіцца сорамна за яе якасць, „Кардон" парадуе сваіх паклоннікаў тэхнічна добрай „Радыяцыяй", якая пачынаецца інтрадукцыяй: *Ад паветра, вады, агню, д'ябальскай сілы чарнобыльскай і спадара Лукашэнкі, барані нас Божа!*

Менавіта арыгінальныя тэксты на не абавязкова граматычнай беларускай гаворцы падбеластоцкіх Засценак — гэта тое, што мне ў „Кардоне" падабаецца найбольш. Хрыстафор думкі выказвае проста, ясна, без лішняга пафасу і прэтэнзій на Бог ведае што. Не грэбуе моцным словам, але і не пераборшчвае з вульгарызмамі. Спявае пра звычайныя сны, мары, жаданні чалавека, якому пад дваццаць:

*Твае вусны — чырвоныя,*
*Твае грудзі вялікія*
*Так хацеў прыціскаць да сябе,*
*Так хацеў цылаваць цябе,*
*Мая каханка!*

Але і не цураецца спраў узвышаных, такіх як народ, айчына, патрыятызм:

*Народ мой спіць,*
*Як будзе трэба,*
*Буду біць, буду біць*
*У званы маёй царквы!*
*Буду біць —*
*Хай прачнецца ён!*

Па-мойму, тут таксама гучыць шчыра, непасрэдна. Можа крыху наіўна, але ў маладосці іншая перспектыва. Песня „Званы", побач вядомых ужо гітаў „Радыяцыя" і „Айчына" — найлепшая на касеце. Таму хацелася б слухаць яе добра заспяваную, зайграную і запісаную.

Хацелася б, каб жоўты фон для абвядзення калючым дротам сімвала ядзернай энергіі на вокладцы касеты не стаў асцерагальным: „Увага! Небяспечна нізкая якасць!"

**Мікола Ваўранюк**

# Зачараваная Беласточчына

*(працяг са стар. 3)*

ды пайшоў жонцы пахваліцца. Тая збялела як тыя яйкі пабачыла. Там жа іх куры ніколі не несліся. Чары, падумала маладзіца і чым хутчэй пайшла распытаць цешчу, вопытную ў таемным рамястве жанчыну. Гісторыя разгарнулася ўначы, бо хлопец, які найшоў зачараваныя яйкі, здурэў. Бегаў па вёсцы, крычаў адчайныя, п'яныя словы, якімі раней карыстаўся сын суседкі-чараўніцы. У той жа вёсцы М. чарадзеі часта карысталіся яйкамі. Калі ў Сцепанёвых найшлі падазроныя яйкі, ведалі, як з імі справіцца. Самая вопытная ў М. жанчына ўзяла іх разам з саломай і загадала ў печы паліць, якія ў ёй тры дні трымаць, чары выпякаць.

— Пячыцеся... пячыцеся чары! — прыгаворвалі ўсе тры дні Сцепанёвы.

Урэшце прыбягае да іх баба з канца вёскі, зусім з глузду з'ехаўшы, і крычыць: „Што вы з тымі чарамі робіце? Маю сярэдзіну ўжо трэці дзень агнём паліць!" А тыя шчаслівыя, што чары спалілі і вядзьмарку знайшлі.

Чары з крывадушнасцю трымаюцца. І моц іх тады страшнейшая. Бывае, што родныя сёстры на сябе чаруюць. Оля і Маня, абедзве беластачанкі, родныя сёстры, часта сустракаліся, у вёску разам ездзілі.

— Пазыч мне тысячу, — папрасіла аднойчы Оля сястру. Маня адразу ж выняла з кашалька банкнот і дала яго сястры. Пазней, пасля трох месяцаў прыносіць ёй тыя грошы лістаноша. І дасланыя не Маняй, а яе цешчай. Пералякалася Оля ад такога дзіва, ды давай усе грашовыя правалы ўспамінаць. Якраз тры апошнія месяцы грошы яе не трымаліся, усё нейкія штрафы або дзіўныя патрэбы з'яўляліся. Оля рашыла пазбыцца зачараванай тысячы. Перадала яе згаданай ужо знахарцы, каб тая адчаравала і на царкву падарыла.

— Трэба было гэтыя грошы кінуць на ростань дарог, — успамінае мая субяседніца, аўтарытэтная знахарка. — Бо як везла я іх пасвяціць, то машына папсавалася. Пяць гадзін сем кіламетраў ехала. А як пайшла памяняць тыя грошы на пошце, то бачыла, як касірша падксочыла, калі банкнот гэты ў рукі ўзяла.

Каб здзейсніць свой магічны, шкодны намер, трэба падшукаць адпаведную ахвяру, найчасцей добразычлівую і сардэчную сабе асобу. Чары ідэальна прыстаюць да людзей без характару, волі, розуму. Чарадзеі і ведзьмары вялікія псіхолагі, таму ахвяры дабіраюць заўсёды трапна.

У І., што на Гайнаўшчыне, ведзьмары зачаравалі маладую пару.

— Трэба зважаць на падаркі, — гаворыць мая інфарматарка. — У І. падарылі маладым замест грошай абразок з труной. Усё як след, у канверт пакладзены быў. І ад гэтага маладыя хутка „нажыліся". Сталі сварыцца, лаяцца, біцца. Таму маці маладой па свяце ездзіць, ратунку шукае.

З вядзьмарствам і чарамі змаганне безнадзейнае. Найбольш спецыялістак ад скідання чараў пражывае ў наваколлі Чаромхі. Там таксама найчасцей займаюцца чарамі і магіяй. Чаруюць таксама на Бельшчыне і ў Беластоку. Мая субяседніца баіцца чараў.

— Бо тады і сама набіраюся гэтай пошасці. Баліць пасля галава, млеюць рукі, у вачах цямнее. Чары скідаюць у святых месцах, цэрквах, лечаць іх таксама шчырым постам і хрысціянскай малітвай.

— Бывае, што людзі падаюць на тры царквы, а пазней яшчэ да трох баб едуць, — гаворыць знахарка.

І хаця набліжаецца канец XX ст., на Беласточчыне чаруюць як у часы Сярэдневякоўя. Вера ў магію і чары заўсёды тут квітнела. Дазвалялa яна паверыць у цуды, якія хаця на момант рассвятлялі невясёлае, шэрае жыццё. І на чараўніц тут не палявалі! Толькі расслаўлялі іх і іхнюю дзейнасць у песнях, казках і аповедах.

**Ганна Кандрацюк**

# Да Ніны Мушынскай — у Ялоўку

Дзіўна неяк, што да Ніны Мушынскай, стваральніцы славутага гарадоцкага калектыву, я еду не ў Гарадок, а ў Ялоўку.

Таму, хто ведаў гэтага перапоўненага энергіяй чалавека, цяжка было зразумець той факт, што восень свайго жыцця вырашыла яна правесці ў доме, сама назва якога раней магла наводзіць жудасць: дом прастарэлых, дом старцаў, дом грамадскай апекі. Дзякуй Богу, што сёння ён называецца цалкам звычайна: Дом пенсіянераў у Ялоўцы, а людзі, якія апынуліся ў ім, як і ўсюды, жывуць па-рознаму. У адных нікога з блізкіх няма, у іншых ёсць дзеці і ўнукі, з якімі яны не парываюць сувязяў. Адны — здаравейшыя, самі ўсё зробяць каля сябе ды яшчэ і іншаму дапамогуць. Другія — больш хворыя і ім без гэтай дапамогі і спачування ніяк не абысціся.

Ніна Мушынская ўжо чакала мяне ў сваім пакоі. Стройная, як заўсёды, з акуратна зачэсанымі сівымі валасамі, у ружовым касцюмчыку, звязаным уласнымі рукамі, яна не рабіла ўражання 86-гадовай старушкі. Ведала, што мяне заўсёды цікавіла яе творчая дзейнасць, і з ходу пачала расказваць. У аўторак, 25 чэрвеня, былі мы ва Угове на Купаллі. Танцавалі і спявалі, і вянкі пускалі. Выступаць трэба было папольску, дык я „Купалінку" пераклала. Я цяпер тут за вялікую перакладчыцу. Такую праграму адставілі, што дзіржысь! Усе прызналі, што Ялоўка выпала найлепш. Ды і вянкі ў іншых былі просценькія, а ў нас усе з жывых кветак. Я іх усе зрабіла. Пасля інсцэнізацыі ўсе кідалі іх на ваду, на Нарву. Нам вельмі дапамагае пры такіх імпрэзах Мар'ян Гайдучэня, наш загадчык склада. О, у мінулым карнавале дык мы з балю на баль, з балю на баль...

— А вось і мая кампаньёнка! — сказала гучным голасам пані Ніна, калі адчыніліся дзверы і ў пакой увайшла старэча і села на сваім ложку. — Яна на восем гадоў за мяне малодшая, але глухая і сляпая — з ёй не дагаворышся. І нікога-нікога ў яе няма ў той Харошчы.

Другая „кампаньёнка", 28-гадовая дзяўчына з-пад Бандароў, ціхенька сядзела на сваім ложку, зрэдку папраўляючы на галаве белую хустку.

— Яна па хіміятэрапіі, у яе гуз у галаве, вось валасы ўсе павылазілі... Ой, мелі мы з ёю клопатаў, — уздыхнула пані Ніна. У яе таксама няма блізкай душы. Маці памерла, бацька п'е...

* * *

А ў Ніны Мушынскай было цалкам інакш. Унучка Малгося, дакторка, плакала як на пахаванні, калі яе любімая бабка тры гады таму паведаміла сям'і пра сваё рашэнне. Першыя чатыры гады свайго жыцця Малгося правяла ў бабчынай хаце ў Гарадку — і да яе была прывязана, як да нікога.

Але і ўнук сказаў бабцы: „Табе там не месца!" — „Як будзе кепска — вярнуся", — супакоіла ўсіх пані Ніна. „Што ж, мама ўсё жыццё сама аб усім вырашала..." — падсумаваў сын Ігар. І можа ў гэтых словах было найбольш праўды.

Цяжка жыць не ў сваёй хаце, хаця ў Беластоку стаяць дзве вілы ў сыноў — Ігара і нябожчыка Мсціслава, бацькі Малгосі. Не хацеў бы чалавек для нікога быць завалай. Лепш усё ж мець сваё месца. Тут лягчэй і весялей, расказвае мне Ніна Мушынская. А праўнук, Малгосін сынок, якога гадавала ў Беластоку дзевяць месяцаў, перажываючы ўсе



іх радасці і клопаты, з такой ахвотай сёння ходзіць у прадшколле, што аж дзіва. Які гэта дурань, кажа, прыдумаў, каб у суботу не хадзіць у прадшколле!

З болем развіталася Ніна Мушынская са сваёй роднай хатай у Гарадку. Даўно пераваліла ёй за восемдзесят і ўжо не дала яна рады дагледзець усё так, каб быў парадак і ў хаце, і ў агародзе. А рабіць абы-як не ўмела. У гэтай хаце ад сорак першага года ішло яе ўдавінае жыццё з двума малюткамі на руках. Аднаму было чатыры гадкі, а другому — годзік. Выкарміла іх і вывучыла на інжынераў, ды, як кажа, хапіла часу і на „глупствы". А „глупствамі" пані Ніна называе сваю мастацкую дзейнасць, хаця да сёння няясна, што для яе ў жыцці было галоўным.

З гарадоцкім хорам, стваральніцай і душою якога была яна на працягу многіх гадоў, з'ездзілі яны ўсю Беласточчыну, выступалі няраз у Варшаве, Ольштыне, Любліне, Вроцлаве, бывалі на Беларусі. А колькі частушак сама наскладала, славячы свой родны Гарадок!

Ой, што вы, сяброўкі мяне не забываюць! Ужо тры разы калектыў прыязджаў у Ялоўку і выступаў у нас.

І з Ваўкавыска тут былі, кажа пані Ніна. Прыйшоў наш дырэктар Ян Галубоўскі і просіць, каб ім падзякаваць за канцэрт па-беларуску. А яны ж нядзалы кіламетр ад граніцы. Ну, і Мушынская сабралася з духам і так ад сэрца падзякавала ім, што ў вачах у людзей слёзы стаялі.

... Заглянуў у пакой нейкі чалавек. А гэта мой кампаньён Уладзімір Самойлік, мой сусед з Гарадка, растлумачыла Ніна Мушынская. Сусед на гэты раз не хацеў нам перашкаджаць.

Весела тут, кажа пані Ніна. У нашым пакоі многа смеху.

Слухаю гэта і думаю, што спрыяе гэтаму моцны характар Мушынскай, яе дасціпнасць і розум. Колькі бед давялося ёй перажыць! А колькі хвароб намагалася зламаць яе волю да жыцця... Чаго толькі яна не мела! Гадоў дваццаць таму было запаленне скроневых жыл і пагражала ёй сляпата. Рэдкая хвароба, памог энкартон. Пасля апераравалі аорту. А ўжо пра гінекалагічныя гісторыі лепш не гаварыць. Пачалося 18 гадоў таму. Праз шэсць гадоў апераравалі другі раз. А пасля — штогод, што два гады. І ўжо было шэсць аперацый. Апошні раз апераравалі ў лютым. Цяпер п'ю, уздыхнула пані Ніна, нейкі такі лек, каб больш гузкі не разрасталіся.

У канцы мінулага года збіралася я на анкалогію, а мой дзень нараджэння меў быць 18 снежня. Прыйшоў дырэктар з жонкай і Мар'янам ды старшыня праўлення жыхароў нашага дома, ну, і як грымнулі пад гітару „Sto lat"! Мы ж тут усе імяніны святкуем супольна. Я бутэльку 28-гадовага віна, якую даў мне калісьці сын, паставіла ўжо пасля аперацыі.

А то была ў мяне язва дванаццаціперснай кішкі. Усё там лопнула, а я была якраз нядаўна апераравана на што іншае. Ізноў наркоз?! — перапужаўся доктар Панэк. Ну, і абышлося без аперацыі. Сама я на „хуткай дапамозе" паехала і прыехала. Не хачу нікому рабіць лішніх клопатаў.

Але калі хачу ўбачыць дзетак, званю ў Беласток, а яны зараз прыедуць, завязуць куды хачу — у Гарадок ці Беласток.

Добра тут. На снеданне і абед іду ў сталовую. А вячэру ем у пакоі, бо многа не ем. Пасуду памыюць. Пасцелька заўсёды чысценькая. Хачу белую — дык белая. Хачу каляровую — будзе каляровая. А плацім усяго 70 працэнтаў рэнты ці пенсіі, незалежна ад таго, якую суму хто атрымлівае. Калі нехта не працаваў, дык за яго плаціць апека, а яшчэ і на рукі атрымлівае ён 839 тысяч — на дробныя выдаткі. Мне і самой выплачваюць мільён дзвесце, дык я стараюся падкінуць якісьці грош унучцы, дзіцячаму лекару. Яна мяне ў бядзе не пакіне...

Радасна чалавеку, што яшчэ ён нешта варты. 9 мая памерла сястрына дачка. У сястры рукі да нічога не прыкладаліся. Гося мне кажа: пабудзь з ёю. Дык я там усю хату да парадку давяла. Столькі работы пераваліла, што сама сабе не верыла!..

Але ўсё ж найбольш ганарыцца Ніна Мушынская калектывам, які стварыла яна ў новым асяроддзі. Складаецца ён з 9 чалавек. Толькі ў гэтым годзе былі ў Харошчы, у Чараўках — на балі-маскарадзе, у Міхалове — на аглядзе калядных калектываў, ва Угове — з калядніками і на Купаллі, у Шымках у школе і яшчэ, і яшчэ.

Усе гэтыя факты пані Ніна зарэгістравала ў сваёй хроніцы, якую вядзе ад часу прыезду ў Ялоўку. Я тут занялася цікавай работай — вяду дзённік, кажа яна з гонарам. Усё тут ёсць — пра жыццё Дома пенсіянераў, якія тут людзі, хто памёр, хто прыбыў, куды мы едзем, хто нас запрашае. Ці адбыўся нейкі конкурс гумару, ці спартыўны турнір з гасцямі з іншых падобных дамоў. Нашы людзі гуляюць у шахматы, шашкі, баскетбол, бадмінтон.

І Ніны Мушынскай усюды поўна. Другая ў хаце сядзела б, пакорна смерці чакаючы. А яна вось „ні разу яшчэ не страціла *wątku*"! Збіраецца пачаць пісаць сваю біяграфію.

„Во каб дажыць да 45-годдзя нашага хору", — з надзеяй гаворыць яна на развітанне. А мы ўсе ёй зычым, каб сустрэцца і на яго 50-годдзі.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Свята Супрасльскай Іконы Прасвятой Багародзіцы

Сёлетняе Свята Супрасльскай Іконы Божай Маці праходзіла ў асабліва ўзвышанай атмасферы, а прычынай гэтаму быў факт перадачы ўсяго манастырскага комплексу нашай Царкве. Урачыстасці пачаліся паломніцтвамі, якія напярэдадні свята, 9 жніўня, прыйшлі ў абіцель. Ужо некалькі гадоў паломнікі з розных мясцовасцей Беласточчыны ходзяць у Супрасль. Першыя заўсёды выходзяць паломнікі з Гайнаўкі, пазней — з Гарадка, Саколкі, Чорнай-Беластоцкай, Васількава і Беластока. Многія паломнікі з розных прыходаў Беласточчыны прыязджаюць на аўтобусах у адмыслова сарганізаваных групах.

Прыбылых паломнікаў прывітаў на скрыжаванні вуліц ля манастыра архімандрыт Мірон у прысутнасці духавенства. Прывітанню спадарожнічаў бой званоў са званіцы, якая ў першую чаргу будзе пастаўлена на рамонт.

Цыкл святочных набажэнстваў пачало ўсяночнае чуйнаванне, якое ўзначаліў Яго Праасвяшчэнства архіепіскап Сава разам з епіскапам Сімяонам з Украіны і Люблінска-Холмскім епіскапам Авелем. У пропаведзі архіепіскап Сава гаварыў аб асаблівым значэнні сёлетняга святкавання, аб ласцы, якую Бог, цераз заступніцтва Прасвятой Багародзіцы і малітвы Царквы, аказаў сваім верным дзецям: „Гэты дар прымаем у раскаянні. Так святкуем сёння і так будзе заўтра. Нашы храмы былі, ёсць і заўсёды будуць адкрыты для ўсіх, якія хочуць быць асвечанымі святлом сапраўднай веры, якім з'яўляецца Праваслаўе". Уладыка Сава адзначыў яшчэ факт, што ўвесь манастырскі комплекс быў перададзены ў чатырохсотую гадавіну злавеснай і ганебнай Брэсцкай уніі. Згадваючы яе, мы вучымся таго, як не павінны сябе паводзіць сапраўды веруючыя праваслаўныя людзі, частка якіх тады „пакланілася залатому цяльцу". Урачыстасці ў Супраслі прысвячаліся таксама памяці ўсіх тых, якія абаранялі Праваслаўе як перад, так і пасля ўвядзення уніі ў 1596 г., і якія пралілі сваю кроў, а нават аддалі жыццё. Літыю з благаславенствам хлябоў папярэдзіў хрэсны ход вакол рэканструяванай Благавешчанскай царквы.

Апоўначы перад Супрасльскай Іконай Багамаці служыўся Акафіст Прасвятой Багародзіцы, а затым вернікі са свечамі падаліся ў катакомбы, дзе служылася Вялікая Паніхіда па манахах Супрасльскай абіцелі і ўсіх праваслаўных, якія на працягу стагоддзяў аддавалі свае сілы Святому Праваслаўю. Варта ў гэтым месцы прыгадаць, што катакомбы моцна пацярпелі перш за ўсё ад шукальнікаў скарбаў, а таксама ад неахайнікаў, якія зрабілі ў гэтым месцы звалку, і ад атмасферных варункаў. Цяпер ствараецца рэальны шанц на выратаванне катакомбаў. Неўзабаве гэтая тэрыторыя будзе законна перададзена Царкве, а тады будзе яна забяспечана ў адпаведны спосаб. У катакомбах знаходзіцца 180 ніш, у якіх хавалі манахаў. Малітва за памерлых пры мігценні свечак напэўна надоўга застанецца ў памяці паломнікаў.

Паміж паасобнымі набажэнствамі ў царкве вернікі ўсю ноч бодрствавалі, молячыся і спяваючы духоўныя песні. Завяршэннем гэтага чуйнавання была Літургія а чацвёртай гадзіне раніцы, падчас якой многія паломнікі приступілі да Прычасця. Царква Св. Іаана Багаслова была перапоўнена паломнікамі. А восьмай гадзіне адбылося асвячэнне вады, а галоўным пунктам Свята Супрасльскай Іконы Божай Маці стала Літургія а дзесятай гадзіне, якую адправіў архіепіскап Сава разам са згаданымі епіскапамі ў саслужэнні звыш пяцідзесяці святароў. Мноства вернікаў шчыльна запоўнілі Благавешчанскую царкву і манастырскі дзядзінец. Цудоўнае надвор'е ў натуральны спосаб прыдало ўзвышанасці святкаванням. Атрымаўшы ва ўладанне ўвесь манастыр мы павінны паказаць усім, што з'яўляемся дастойнымі гэтага месца, а дзеля гэтага неабходнае наша адзінства, — сказаў архіепіскап Сава. І хаця цяпер увесь манастырскі комплекс знаходзіцца ў дрэнным стане, мы верым, што Гасподзь, па малітвах Прасвятой Багародзіцы, якая з'явілася ў гэтым месцы ў выглядзе Супрасльскай Іконы, а таксама ўсіх святых, пасадзейнічае, каб гэтае месца атрымала свой колішні бляск і стала духовым цэнтрам Праваслаўя ў Польшчы.

**С. Сулковіч**

 

# Любоў пад вокам гестапа

**Калі б не тая вайна, Ганс і Сонька не сустрэліся б. Калі б не вайна, Ганс не дастаў бы кулі ў лоб за каханне з дзяўчынай рабскае расы. Калі б не вайна, іначай выглядаў бы сённяшні свет.**

Унучка Ганса і Сонькі разумее слова „мяжа" і „ўзброены канфлікт", але жыве ўжо ў Еўропе, якая хоча аб'ядноўваць і, забыўшы ўсе крыўды, глядзець у будучыню, але для яе „вайна", другая сусветная вайна — амаль пустое, абцёртае з усяго значэння, абрыдлае са школы слова. Але, можа, будзе пра тое ўсё пытаць яе ўнук, народжаны ў Швейцарыі, з бацькі, для якога родныя — тры мовы? Унучку Сонькі-беларускі і Ганса — шлёнскага немца, ад маленства вучылі размаўляць толькі па-польску ў Беластоцкім краі.

### Нашы вёскі папалілі

немцы ў 1941 годзе, усе тыя, што пад пушчай былі, — расказвае баба Ніна Барысёнак. — Немцы ў нас у зямлі знайшлі руду, рэзалі пушчу, пракладвалі вузкакалейку, чыгунку. Шмат хто з нас, маладых, каго не ўзялі ў Германію, мусіў ездзіць класці пуці, сыпаць насыпы і ўсё іншае, што загадалі. Я была кульгавая, майго брата павезлі ў Прусію, і каб не тое маё калецтва, і мяне, можа, узялі б на паняверку, маці адна асталася б...

І Соньку таксама хацелі забраць, бо брат збег. Замуж Сонька пайшла ў жніўні трыццаць дзевятага, а як пайшоў ейны Міша на фронт, то ні віду, ні слыху. Ездзіла з намі Сонька на чыгунку, маладзенькая такая, харошая, то зараз немцы пачалі яе зачапаць. Вядома, не агрызнешся, хоць тыя залёты табе пракудныя, яны ж тут — паны. А Сонька заўсёды такая ганарыстая была, і да замужжа *недаткнёна*, нікуды не хадзіла, па забавах мала гуляла. І раз сядзім мы на прычэпе, вязуць нас на чыгунку, а Сонька белая сядзіць, як папера, вочы надпухлыя, бы ўсю ноч плакала. Чаго, кажу, Сонька, баішся, што цябе хочуць на прыбіральшчыцу ў камендатуру?.. Нічога страшнага, пратрываеш, пакуль рускія не пагоняць іх адсюль... А дзе тут рускія, усё ўцякалі, але што ж, мы ўсе надзею мелі, верылі, што Расея вялікая, магутная, і Сталін — правадыр вучоны, разумны і хітры. А Сонька ў плач, кажа, зганьбуюць, далібог, гэтыя жывадзёры, а пасля што людзі скажуць, хоць ты ідзі ано вешайся... Сонька вельмі харошая была, не то, што я — малая, рабая, да таго і з нагой карацейшай. Высокая, стройная, ано ў кіно яе бяры. А вочы васільковыя, косы да пояса, жоўтыя, як спелы авёс. Ці ж не хацелі б мець такую немцы ў камендатуры, каб ім падлогі мыла ці што там яшчэ? Вядома, страшна Соньцы было.

— Чаго ты баішся? Там работа чыстая. Немцы народ акуратны. Папрыбіраеш...

— Якое там прыбіранне. Найстарэйшы адразу мяне за сцёгны хапаў. І ў рот заглядаў, што я, кабыла якая, ці што?!

— Чаго ты, Сонька, пераймаешся. Пратрымацца неяк трэба. Выжыць. З імі ніхто яшчэ не выйграў. Бачыла, якія ў іх самалёты, танкі, аўтаматы! Нікога яны не баяцца, нават Бога. Але калі рускія рушаць сюды... Бо ж Бог не дасць святую Расею заваяваць такому вар'яту. А ты ў жывых астанешся. І маці ўратуеш.

— Ды агідныя яны мне. Бацьку прыбілі, Міша ў чужой зямлі гніе, а мне лезці пад якога паганца?.. Што народ скажа?

— Махні ты рукою на „народ". Не адна захацела б ісці да чыстае работы. Маці што-небудзь прынясеш дахаты...

Не думайце пра мяне кепска, што я так яе намаўляла. Тады так было. Страшна. А жыць жа кожнаму хацелася. Выжыць. Асабліва нам, маладым. Што тая вайна, смерць, голад — калі мы проста любіць хацелі, цешыцца, сем'і заводзіць, гаспадарыць... А тыя немцы здаваліся нам усе на адзін капыл, ці стары, ці малады, ці паліцэйскі, ці жаўнер, ано стаяць у вачах іх твары бы ў лялек, і тая іх ненавісць да нас, і тая зброя, і агонь. Усе вёскі папалілі, а калі хто вярнуўся восенню хоць бульбіну ўзяць са свайго поля, то з таго поля і не вярнуўся, як хоць бы Павел Семянюк з Міклашэва... Ненавідныя былі нам тыя нелюдзі.

— Сонька, — кажу, а мне ў сэрцы аж шчыміць, — так трэба. Ідзі.

Яна і пайшла. Не думаю, што хтосьці мог што кепскае сказаць на яе тэму. Здаецца, да пэўнага моманту і не згадвалі пра тое, што Сонька Максімянка працуе ў немцаў. Да тае пары...

### Смерць за каханне

Да тае пары, як стала сустракацца з Гансам. Ганс быў просты жаўнер, ранілі яго недзе на ўсходзе, везлі яго дадому, і пакінулі яго тут у нас. Патрэбны быў, пэўна, перакладчык, а Ганс са Шлёнска быў. Насіў свой зялёны мундзір, тым і вылучаўся сярод паліцаяў. Такі трохі дзіўны той Ганс быў, якісь бы не з іхніх. Глядзіш на яго і думаеш: як сюды трапіў такі харошы, ветлівы чалавек, чаго пайшоў на нас з вайною, з гвалтаўнікамі, рабаўнікамі, забойцамі, якія нас так ненавідзяць? Зусім як наш хлопец, русы, трошкі рабы на носе, нават трохі падобны на майго брата Якіма, што забілі яго яшчэ ў верасні... Усе пачалі ўголас пра іх гаварыць, як у Сонькі жывот быў ужо вялікі. Ад Мішы весткі няма, то адкуль у маладое жонкі такі трыбух? Тым больш, што нідзе не цягаецца... А сама бачыла Соньку з Гансам на ўзлеску, ноччу. За ручкі трымаліся, цалаваліся. Я наляцела на іх, бегла з суседняе вёскі. Сонька абняла мяне з плачам: „Ніначка, не кажы толькі нікому, бо нам смерць будзе. Ён такі добры, ён жа нявінны, што вайна..." — „Ніна, я кахаш Соня", — прабалбатаў Ганс, схапіў маю руку і прытуліў сабе да сэрца. — „Не вечэч нік, не мувіш нік". Я і нічога не сказала, вядома, а злякалася тады так, што два дні праляжала ў пасцелі.

Соньцы нічога не зрабілі, але Ганса расстралялі. Не за тое, што з нявольніцай меў справу. А за тое, што ім сказаў праўду, што кахаюць адзін аднаго. Божа, чаго ж трэба ім было яго забіваць! Паслалі б на фронт за такі грэх, ці што... Сонька сказала мне, што ўцякаць сабраліся, але куды ж ім можна было падацца? Кругом вайна, фашысты ва ўсёй Еўропе. Ой, які лёс страшны! Калі б не тая вайна, маглі б жыць тыя людзі як людзі... Калі лёс даў ім сустрэцца! Гэта ж як здзек над чалавечым сэрцам! Ну, але калі б не пайшлі немцы на нас з вайной, то ці спаткаліся б Сонька з Гансам...

Труну з забітым Гансам адправілі матцы ў Нямеччыну. Думаю, што не пісалі ёй, як сын загінуў, што ад, так сказаць, роднае кулі. Я так мяркую. Бо інакай, пэўна, закапалі б яго абы-дзе, як здрадніка.

### Дзеці народаў

Сонька нарадзіла дзяўчынку. У 1954 годзе вярнуўся Міша з Сібіры. Не чулі мы, каб сварыўся на Соньку за Анютку. Малая была запісана на яго прозвішча, татам яго называла. Мы таксама ўсе маўчалі. Але толькі глянеш на малечу — чыста той няшчасны шлёнскі Ганс — вочы блакітныя, русы чуб, і той трошкі рабенькі носік. І тая разгубленая ўсмешка.

Соньку прыдушыла сасна на лесапавале. Міша Анютку гадаваў адзін, у школы паслаў. Замуж выдаў за сваяка, даў пасаг. Тады зямля яшчэ вартасць мела, не тое, што цяпер... Нарадзілася яму ўнучка, Гражынка. Вельмі ж тое дзіцянё любіла дзеда. А Міша, як ні стараўся, неяк не мог перамагчыся. Кажу яму: „Міша, прытулі маленькую, ліпне да цябе Гражынка, больш чым да бацькоў". І сапраўды, больш мела ад яго ласкі, чым ад бацькоў. Анюта з Колем выехалі ў горад, то на канікулы ўсё Гражынку ў вёску высылалі. Калі Гражына была ў ліцэі, то сама ўсё ездзіла да дзеда, амаль штотыдзень. На студыях па свеце вандравала, то ўсё дзеду паштоўкі слала, а то і падарункі. Паказваў мне тыя каляровыя картачкі з замежных гарадоў і здымкі, гаварыў: „Ніна, і што мне рабіць... Які ж мой лёс нялюдскі... І бач, нядродная кроў, фашысцкая цячэ ў гэтым дзіцяці. Але адна яна ў мяне, што мне на старасць радасць прыносіць. Хоча нават да нас у вёску прыехаць працаваць..."

Але не перасялілася Гражынка да нас, не. У Швейцарыі пазнаёмілася з нейкім ці то немцам, ці то французам, і там замуж выйшла, хлопчыка нарадзіла, здаецца, Норман называецца, ці Герман, неяк так. Пераназвалася на Грацыелу, бо цяжка было там ім вымаўляць яе імя. Можа, кроў яе да свайго пацягнула. Але мала то нашых па заграніцах шчасця шукае?..

Запісала Міра Лукша

*Імёны і прозвішчы герояў і некаторыя факты зменены.*

# Радзіма — Родзіна

### Частка LVI

Прыводжу далейшыя фрагменты выказванняў выдатнага эміграцыйнага беларускага даследчыка і публіцыста Антона Адамовіча, які характарызуе матывы і вынікі намаганняў беларускіх дзеячаў у перыяд нямецкай акупацыі:

„Я ўжо вам гаварыў, што не вера ў Гітлера і не ахвота служыць яму прывяла многіх беларусаў у паднямецкую адміністрацыю, школьніцтва, а нават паліцыю. Кіраваліся мы толькі адным: стараліся ратаваць беларускасць у Беларусі, імкнуліся не аддаць той абмежаванай улады, на якую дазвалялі немцы, у рукі рускіх і палякаў. Дарэчы, ніхто нават не гаворыць і не судзіць сёння ані палякаў, ані рускіх за тое, што былі падчас акупацыі на Беларусі і чыноўнікамі, і настаўнікамі, і паліцыянтамі.

Не ведаю ці вы, Алесь, ведаеце аб тым, што ў Менску ў часе акупацыі працаваў на высокай адміністрацыйнай пасадзе пазнейшы прэзідэнт Народнай Польшчы Баляслаў Берут. Я часта яго сустракаў і хачу сказаць, што са мною ён заўсёды размаўляў па-беларуску. Зрэшты, размаўляў ён зусім добра, хаця па акцэнту і адчувалася, што ён не карэнны беларус. Ён займаўся галоўным чынам прыдзелам лякарстваў, а гэта ў вайну была вельмі важная і высокая пасада. Быў ён чалавекам не надта высокага росту, меў моцна прылізаныя валасы, досыць дбаў пра акрэслены стыль у вопратцы. Несумненна, лічыў ён сябе палякам, а не беларусам, але пры гэтым служыў немцам. А ці хтосьці ў Польшчы яго за гэта судзіў, праследаваў, крытыкаваў? Не! Нават быў ён вынесены на найвышэйшую пасаду ў дзяржаве. Вось бачыце, як палякі талерантна ставіліся да тых сваіх грамадзян, якія супрацоўнічалі з немцамі. А беларусы як ставяцца? Падсавецкія беларусы ахвотна вывешалі б усіх тых, хто служыў у паднямецкай адміністрацыі ці асвеце. Вось бачыце, якая розніца між намі. Хтосьці можа сказаць, што Баляслаў Берут працаваў у нямецкай адміністрацыі, але супрацоўнічаў з партызанамі, а мы з партызанамі не супрацоўнічалі. Гэта праўда, але гэта не значыць, што наша трактоўка Радзімы, нашы мары аб будучыні Айчыны змяшчаліся ў рамках нямецкага мыслення. Мы сустракаліся, размаўлялі, планавалі, марылі аб вольнай Беларусі, вольнай ад усіх ворагаў, у тым і ад немцаў. То ж не выпадкам многія з нашых дзеячаў, у тым і свядомыя беларусы-духоўныя былі расстраляны немцамі. Знішчалі нас і польскія ды савецкія партызаны і немцы за адно і тое, за бязмежную любоў да вольнае Беларусі. Мы ўсю акупацыю хадзілі па канаце і многія з гэтага каната звалілся і згінулі. Але ж многае зрабілі добрае. Не ведаю, ці вы, Алесь, ведаеце аб тым, што падчас акупацыі ў Беларусі ўдалося нам сарганізаваць не толькі вельмі многа пачатковых школ, у якіх усе прадметы вяліся на беларускай мове? Ну, можа гэта вы і ведаеце, але ці ведаеце, што сарганізавалі мы поўнасцю беларускамоўныя сярэднія школы, між іншым гандлёвыя і медыцынскія? Нялёгка было дабіцца гэтага. Немцы ў гэтай справе паддаваліся з вялікім скрыпам, аднак дзякуючы звышчалавечым нашым высілкам, удалося нам гэта зрабіць. А якая аграмадная доза беларускасці была ў дзейнасці Саюза беларускай моладзі! Колькі маладых людзей выратавала гэта арганізацыя ад п'янства, ад традыцыйнай разні на вечарынах, вяселлях і забавах! А якую ж культурна-асветніцкую дзейнасць вяла гэта арганізацыя! А што сёння ведаюць аб СБМ людзі ў Савецкай Беларусі? Або не ведаюць нічога, або ведаюць, што гэта была фашысцкая, прагітлераўская арганізацыя. А СБМ быў ярым абаронцам беларускасці і што мог, тое рабіў дзеля ратавання Радзімы. А думаеце, што мы, калі толькі даведваліся, што каму-колечы пагражае з боку немцаў арышт, не паведамлялі яго аб небяспецы? Паведамлялі і гаварылі, каб як найхутчэй уцякаў.

Паводле нас і саветы, і немцы былі няшчаснымі для Беларусі. А гэта таму, што як адны, так і другія не думалі даваць Беларусі поўнай свабоды, незалежнасці і волі. Але калі толькі свядомыя беларусы заўважалі якія-небудзь магчымасці дзейнасці ў карысць вольнае Радзімы, то выкарыстоўвалі гэта і ў дваццатыя гады ў БССР, і ў часе акупацыі, і ў даваеннай Польшчы, і зразумела, у эміграцыйных варунках. Думаю, што ўсе беларусы, незалежна ад таго, дзе ім наканавана жыць, павінны прызнаць максімум волі і ахвярнасці для ратавання беларускай духоўнасці. Якраз такімі меркаваннямі кіраваліся мы ў час акупацыі, а не жаданнем служыць Гітлеру. Быў ён нам так сама „любы" як і Сталін".

Алесь Баркі



 

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**25 жніўня**

1530 г. — нар. Іван IV Жахлівы, маскоўскі цар.

1900 г. — памёр Фрыдрых Ніцшэ, нямецкі філосаф.

1908 г. — памёр Антуан Бекерэль, французскі фізік.

1944 г. — амерыканскія і французскія войскі занялі Парыж.

**26 жніўня**

1278 г. — перамога нямецкіх войскаў над чэшскімі пад Марфельдам палажыла падваліны пад магутнасць роду Габсбургаў. Смерць чэшскага караля Атакара II.

1880 г. — нар. Гіём Апалінэр, французскі паэт.

1914 г. — нар. Хуліо Картазар, аргенцінскі пісьменнік.

1990 г. — у капальні вугалю каля Тузлы (Югаславія) загінула амаль 180 гарнякоў.

1991 г. — Беларусь, Малдова і Узбекістан аб'явілі самастойнасць.

**27 жніўня**

1576 г. — памёр Тыцыян, італьянскі мастак.

1635 г. — памёр Лопэ дэ Вэга, іспанскі паэт.

1770 г. — нар. Георг Гегель, нямецкі філосаф.

1929 г. — нар. Ясір Арафат, палесцінскі палітык.

1965 г. — памёр Ле Карбюзье, французска-швейцарскі архітэктар.

**28 жніўня**

1749 г. — нар. Іаган Гётэ, нямецкі паэт.

1941 г. — савецкае кіраўніцтва прыняло рашэнне аб перасяленні волжскіх немцаў у Сібір.

1973 г. — землятрус у Мексіцы, ад якога загінула каля 900 чалавек.

**29 жніўня**

1862 г. — нар. Марыс Метэрлінк, бельгійскі пісьменнік.

1920 г. — нар. Чарлз Паркер, амерыканскі джазмен.

1951 г. — сіяніцкі кангрэс у Іерусаліме запатрабаваў ад СССР дазволу на эміграцыю яўрэяў у Ізраіль.

1966 г. — апошні супольны канцэрт гурту „Бітлз".

**30 жніўня**

1871 г. — нар. Эрнест Рэзерфард, брытанскі фізік.

1973 г. адкрыццё для руху моста праз Басфор даўжынёю 1074 метры, які злучыў еўрапейскую і азіяцкую часткі Турцыі.

**31 жніўня**

12 г. — нар. Гай Калігула, рымскі кесар.

1907 г. — Вялікабрытанія і Расея падпісалі ў Пецярбургу пагадненне аб размежаванні ў Персіі, Афганістане і Тыбеце.

1914 г. — у бітве ва Усходняй Прусіі 8-я нямецкая армія пад камандаваннем маршала Гіндэнбурга разбіла 2-ю расейскую армію.

1941 г. — пачатак аблогі Ленінграда нямецкімі войскамі, якая доўжылася каля 900 дзён.

1948 г. — у ЗША паказалася першая доўгаіграючая вінілавая кружэлка, якая круцілася з хуткасцю 33,3 абар. у мінуту.

1968 г. — у выніку магутнага землятрусу ў Іране загінула каля 12 тысяч чалавек.

1980 г. — польскі ўрад падпісаў пагадненне з бастуючымі рабочымі Гданьска, у сілу якога было дазволена стварэнне незалежных прафсаюзаў.

1986 г. — на Чорным моры савецкі пасажырскі лайнер „Адмірал Нахімаў" ударыў у фрахтавае судна, у выніку чаго загінула каля 400 чалавек. **(Ш)**

## ПАРНАСІК

### Браканьеры-нягоднікі

Браканьеры-нягоднікі —
Пра іх ідзе рэч:
Вялікія шкоднікі,
На іх патрэбен меч!
Звярыну знішчаюць
Па-зладзейску, люта.
Уначы ажываюць,
У іх душах атрута.
Капканы купляюць
Ад рускіх гандляроў.
Сваё „рамясло" знаюць,
Што не хапае слоў.
Што ў капкан пападзе,
Не вырвецца ніколі.
У мучэннях прападзе —
Такая звяроў доля.
Браканьеры знішчылі датла
Звярыну, птацтва.
Дажыліся да барахла —
Засталося адно рабацтва.
Браканьер — злодзей,
Вырадак чалавецтва.
Хоча есць, жыць лягчэй,
Ён сімвал пагарды, калецтва.

Занадта з імі гуляе
Наш урад, паліцыя:
Гэта іх асмяляе
У іх нікчэмнай „місіі".
Гнаць трэба гандляроў
З іхнімі капканамі,
Каб вярталіся дамоў
Дзейсна, не словамі.
Браканьеры, слухайце!
Пра вас ідзе рэч.
І добра падумайце:
На вас патрэбен меч!

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

### З былога

Ой, шчабечуць птушачкі рана,
ой, рана.
Чуе дзеўка голас пана: „Кахана,
кахана..."
Не яе той голас датычыць, датычыць,
Бо ў пана дзевак, што сам іх
не злічыць, не злічыць!

**Мар'я ПЕНЬ**

## Яшчэ адна сардэчная падзяка

У надрукаванай у 12 (2080) нумары „Нівы" ад 24 сакавіка г.г. з увагі на недахоп у тыднёвіку месца на культурныя паводзіны на апошняй старонцы і азагалоўленай рэдакцыяй „З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне" маёй „Сардэчнай падзяцы" бельскім ліцэістам ад Тарашкевіча (і ці не майго таксама Касцюшкі?..), нііўскі камп'ютэр забыўся пра яшчэ адно прозвішча аднаго з бельскіх ліцэістаў, якія рашуча запратэставалі, між іншым, у маёй абароне, — Тамаша Бжазоўскага. Яму таксама яшчэ раз сардэчна дзякую за пратэст! Спадзяюся, што на гэты раз ніўскі камп'ютэр яго не прапусціць! Так што ў маёй абароне выступіла 23, а не 22, як паведаміла ніўская электронная вылічальная тэхніка, бельскіх ліцэістаў! Усё, бачу, не можаце ачухацца пасля славутага на ўсю Польшчу і Еўропу крадзяжу міністэрскіх камп'ютэраў!

Ізноў жа невядомаму мне асабіста народнаму паэту Мікалаю Лук'янюку ветліва і сардэчна дзякую за ягоны верш „Пажаданні" („Ніва" н-р 6 (2074) ад 11.II.1996 г., с. 11), які, як адзіны прадстаўнік „Нівы" і БГКТ, падзякаваў мне з Іванам Кірызюком за нашую шматгадовую пісьменніцка-публіцыстычную і навукова-папулярную ў ёй дзейнасць (маю асабіста ад 1978 г. з аднагадовым перапынкам у 1987, калі правіў ёю папулярны гісторык) у сувязі з саракагадовым юбілеем вышэйзгаданай арганізацыі і яе, цяпер ужо незалежнага, органу!

З павагай
**Юры ТРАЧУК**



*Гацькі — раскопаны курган.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астронку! Сніцца мне вялікае памяшканне. Быццам палатка нейкая, вайсковая ці што. Мы там прыбіраем. Мой ложак (ці толькі матрац з падушкай) стаіць побач з ложкам шэфа.

Я перасцельваю ложак, адным словам, збіраю пасцель, а пад падушкай бачу дзве нары: кошкі і пацука. І ў іх маленькія пацучкі і кацяняты.

Я падумала: напушчу кошку на пацукоў і яна зробіць з імі парадак. Прыходзіць кошка, я яе пхаю ў бок нары пацукоў, а яна зусім не цікавіцца імі і не чапае іх, а легла на сваім месцы і ляжыць. А нават неяк прыязна адносіцца да пацукоў. Я спалохалася, бо вельмі брыджуся пацукамі. Што будзе?

**НІНА**

Ніна! Не дзівота, што брыдзішся пацукамі: пацукі ў сне — гэта ворагі, якіх цяжка пазбыцца.

Але наогул твой сон нядобры, бо калі і кот, кошка ці кацяняты сняцца — значыцца, ёсць у цябе фальшывыя, хітрыя і прадажныя ворагі.

У гэтым сне быццам бы ўсе твае ворагі аб'ядналіся супраць цябе: і тыя яўныя (пацукі), і тыя скрытыя (кошка), і ніхто табе, бадай, не дапаможа ў тваіх клопатах.

Можа, ворагам тваім стане нейкая хвароба (пасцель) або будуць клопаты на працы (ложак шэфа побач з тваім).

**АСТРОН**

## Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. еўрапейская сталіца, 4. калектыўнае рашэнне, 6. прыносіць дзяцей у капусту, 7. стваральнік, 9. многа дрэў, 11. рэгіён у Румыніі, 12. мяккая шаўковая тканіна, 13. усходні феадал, 15. штучнае рэчышча напоўненае вадой, 17. правы прыток Дуная, 18. той, хто лятаў у космас, 19. кусок старой тканіны.

**Вертыкальна:** 1. маёмасць, набытак, 2. дыпламатычны прадстаўнік, 3. сіла, што падтрымлівае, 4. расейскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, 5. той, што і 18, але па-амерыканску, 6. ліст паперы з часткай тэксту. 8. жаночае імя, 9. даўнейшая назва паляка, 10. званне звязанае з пачэсным становішчам, 14. Шарль, французскі пясняр, 16. далікатнасць, пяшчота, 17. твор для пастаноўкі на сцэне. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 27 н-ра:** Нептун, Тарзан, зварот, рытуал, манета, батрак, магніт, столак, лектар, талака, антэна.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

**Ніва**

„Niwa"
ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Аддзячыў

Антось расказвае сябрам:

— Гэта ж дапамагаў я свайму суседу Паўлюку кабанчыка свежаваць. Кабанчык пудоў на дванаццаць. Асмалілі, апрацавалі як мае быць, разабралі ўсё па вышэйшаму класу. А потым, як і належыцца, селі за стол. Паўлюк налівае шклянку за шклянкай, няма калі і скварку з'есці. Калі я добра выпіў, ён і гаворыць: „Сёння я табе, Антось, свежыну даваць не буду, а то п'яны дзе-небудзь паваліцца, дык сабакі адбяруць. Прыходзь заўтра, дапаможаш пасаліць, тады і разбяромся".

Прыходжу на другі дзень, папрацавалі на славу. Я не ўтрымаўся ды кажу: „Ну, зараз ужо я сваю свежыну забяру..."

А Павел Сямёнавіч на поўным сур'ёзе адказвае: „Свежына, браток, была ўчора. Сёння ж пасалілі — значыць сала. А сала ж ніхто ніколі не дае!"

**Міхась Сліва**
*„Вожык"*

# Ранні класік

„Я — класік. І хоць не маю звання,
Мае радкі, як афарызмы..."
А крытыка — са шкадаваннем:
„Хварэе раннім класіцызмам".

**Юрась Свірка**

# Ніўка



— *Хлопцы, толькі на работу не паведамляйце.*

Мал. А. Папова

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У тэатры:

— Вы такі тоўсты, што павінны купіць сабе два білеты.

— Купіў, але другое месца ў мяне на балконе.

* * *

Халатны цырульнік чарговы раз пакалечыў брытваю кліента; той не стрымаў:

— Калі вы джэнтльмен, дык дайце і мне брытву — буду бараніцца.

* * *

Шатландзец пакалечыўся ў дарожнай аварыі; разбіў галавою шыбу. Мінуў тыдзень. Жонка кажа:

— Не шкадуй тых пару фунтаў і сходзі да лекара, каб павымаў асколкі. Бо, бачыш, усе падушкі ўжо парваны.

* * *

Сын багатага шэйка прыехаў штудзіраваць у Беласток. Па нейкім часе піша бацьку:

— Дзіўны горад гэты Беласток. Я прыязджаю на лекцыі на „Мерседэсе", а прафесар, які нас вучыць, на аўтобусе.

Праз тыдзень студэнт атрымоўвае ліст ад бацькі:

— Не сумуй, сыночак, купіў ды пасылаю і табе аўтобус.

* * *

— Значыць, пабілі вы суседа, — заключае суддзя, звяртаючыся да падсудната. — Ці маеце нешта на сваю абарону?

— Нічога! Ворчык забрала паліцыя.

* * *

Гурток вясковых гаспадынь наладзіў экскурсію ў Кракаў. Калі жанчыны вярнуліся, усе пайшлі да споведзі і кожная прызналася, што здрадзіла мужу. Ксёндз разграшыў іх, а пасля ўздыхнуў:

— Вось так! Калі трапляецца цікавая экскурсія, тады ксяндза не забіраюць.

# Прыезд зяця

Усё добра ў Махаевічаў. І кватэра, і дача ёсць, і машына. Зарабляюць няблага — банкаўскія служачыя. Адзін толькі клопат, як цвік у чаравіку, не дазваляе адчуваць душэўнага камфорту. І гэты цвік не загнеш, не выкінеш разам з чаравікам. Справа ў тым, што дачка Ліля ніяк замуж не выйдзе. Пад трыццаць дзяўчыне, а... Неяк сорам, а што робіцьмеш? Колькі не прываджалі жаніхоў: і немаладых халасцякоў, і разведзеных, і знаёмых, і саслужыўцаў, нават аб'яву ў газеце спрабавалі даваць — ніякага выніку. Ліля ад тых перажыванняў толькі больш азлаблялася. Кінула дом (а жыла ж на ўсім гатовым, адно — птушынага малака не хапала), паехала ў Мінск. Думала, мо там хутчэй знойдзе сваю долю. Дзе там!..

Ды неяк суботнім вечарам дзынькнуў званок у прыхожай. Ля дзвярэй быў не малады, але не скажаш, што патрымаы надта мужчына...

— Добры дзень, — ветліва прывітаўся незнаёмец. — Ад Ліілі я... Вось, прывітанне вам ад яе.

Выцягвае з кішэні шакаладку і працягвае Махаевічысе, што выглянула з кухні.

— А вы хто будзеце?

— Дык як вам сказаць?.. Наогул, муж Ліілі. От, сабраліся распісацца, дык я і прыехаў...

Махаевічы ледзь не абамлелі. Нарэшце!..

— Дык заходзьце, што ж гэта... Як завуць? Мікола? Вельмі прыемна. Распранайцеся, калі ласка. Вось сюды...

Махаевічы не ведаюць, куды пасадзіць дарагога, жаданага госця. Хутка на стале з'явіліся каньяк, гарэлка, закусь, а Махаевічы ўсё налівалі ды падносілі...

— Колечка, зяцёк дарагі... Будзь, як дома, не саромейся. А чаго ж гэта Ліля не прыехала?

— Ды ведаеце, — мнецца зяць. — Цяжка ёй у яе становішчы...

— Якое ў яе становішча? — соладка замірае сэрца ў Махаевічыхі.

— Раджаць напэўна хутка ёй... Ды і цяжкасці... Матэрыяльныя. Кватэры, ведаеце, у нас няма. Купіць трэба, каб было куды прывезці дзіця.

— Дапаможам, дапаможам... Колькі ў вас там у Мінску кватэры каштуюць?

Усю ноч Махаевічы пералічвалі наяўнасць, даставалі купюры з самых запаветных тайнікоў. А назаўтра зяць з раніцы пачаў збірацца назад у горад.

— Лілечка там адна... Нельга яе пакідаць надоўга.

Ён паклаў важкі скрутак долараў у патаемную кішэнь, зашпіліў шпількай.

— Дзякую... мама і тата, — пераадолеў, нарэшце, зяць сябе. — Чакаем вас у госці.

Паехаў зяць. А праз тыдзень прыехала Ліля. Як заўсёды, маўклівая, злая. І нічога па ёй непрыкметна такога...

— Чаму ж ты, Лілечка, адна? А дзе ж Мікола?

— Які яшчэ Мікола?

— Ды муж твой... Прыязджаў надоечы, спадабаўся нам!

— Здзекуецеся? — твар Ліілі пайшоў плямамі. Яна выскачыла ў суседні пакой, бразнуўшы дзвярамі так, што ажно тынкоўка пасыпалася.

— А кватэра?.. Долары нашы? — Махаевіч раскрываў і закрываў рот, а Махаевічыха з працяжным стогнам апусцілася на падлогу...

**Васіль Феранц**

# Эпіграмы з антыподаў

**Філасаф**

Не скажу, што ён такі ж,
як антычны той Сакрат,
што сказаў сам пра сябе:
„Я ведаю, што нічога не ведаю".
Наш мудрэц не скажа такога
пра сябе, хіба што пра другога.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

# Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Не ведаю, ці ты цётка ці дзядзька, але прашу цябе, адкажы мне як мага хутчэй! Я закончыла чацвёрты клас і сёлета пайду ў пяты. Хацелася б, каб ты, Сэрцайка, прыслала мне адказ яшчэ перад пачаткам школьнага года, бо тады будзем на ўроках чытаць „Зорку", а дзеці і так чытаюць у „Ніве" „Сардэчныя тайны"! Я не хачу, каб хтосьці здагадаўся, што гэта я напісала у „Ніву".

Слухай, можа ты не паверыш, але ў нас ужо ў другім класе патварыліся „парачкі". Праўда, многія дзяўчаты і хлопцы „ходзяць" і зусім не саромяцца, што ўсе пра гэта ведаюць. Больш таго, яны так задзіраюць нос, што да іх і не падыходзь.

А я ўвесь час была адна. Не смейся, але калі сяброўкі з панадворка пыталіся ў мяне, ці я маю хлопца, я апускала вочы, бо мне сорамна было прызнацца, што ніякага хлопца я наогул яшчэ не мела. Сяброўкі тады пераглядаліся між сабою, бо разумелі маю сітуацыю.

І вось у апошнія школьныя дні ўсё змянілася. Я не кажу, што я перастала займацца вучобай, на якую так націскалі мае бацькі, папярэджваючы, што калі не буду вучыцца, дык не вырасту на чалавека. Але менш задавалі дахаты, больш было ў класе дыскатэк і часта мы хадзілі на экскурсіі. Мы былі амаль свабодныя і бесклапотныя. І, уяві сабе, у мяне паявіўся „паклоннік".

Ён быў з нашага класа, вельмі добры вучань. Пяцёрка ў яго — найніжэйшая адзнака. На дыскатэках хацеў танцаваць толькі са мною. У розных гульнях выбіраў мяне. На экскурсіях ішоў заўсёды побач.

Аднойчы сказаў мне, што я цудоўная дзяўчынка, што мала такіх у нашым класе. А неўзабаве на дыскатэцы, у часе танца, гэты хлопчык прызнаўся мне, што я яму вельмі падабаюся.

Сэрцайка, вядома, што мне было вельмі прыемна пачуць такія словы. Гэты хлопец многім нашым дзяўчынкам падабаецца і яны былі б рады пачуць ад яго тое, што я пачула.

Аднак жа праз два дні ён паставіў мне ўмову, каб я да школьнага новага года прадумала наступную справу: ці я хачу з ім хадзіць? Даў тэрмін!

І вось новы школьны год неўзабаве пачнецца, а я не ведаю, што рабіць. Не магу сказаць, што мне зусім абыякавы гэты хлопец. Але не скажу, што я яго кахаю. Добра вучыцца — гэта яго, безумоўна, ставіць у рад хлопцаў, з якімі варта сябраваць, але ж я думала, што каханне выглядае інакш. Што рабіць, што адказаць яму?

**Ася**

Ася! Думаю, што ў тваім узросце яшчэ не абавязкова „хадзіць" з хлопцам. Дастаткова з ім толькі сябраваць. „Хадзіць" — у вашым разуменні — абазначае ўжо нейкае пачуццё, а на гэта ты яшчэ маеш шмат часу. Сама ж ты заўважыла, што найбольш табе імпануюць яго добрыя адзнакі.

Калі прыйдзеш у школу, а ён яшчэ будзе памятаць пра тое, што гаварыў у чэрвені, адкажы, што заўсёды цэніш добрых сяброў. Калі будзе настайваць, каб ты адказала, ці хочаш з ім „хадзіць", спытай, што гэта мае абазначаць. Пасля пажартуй, што не ўпэўнена, ці дасі рады выканаць такое заданне.

У тваім узросце яшчэ ўсе хлопцы павінны быць твае.

**Сэрцайка**